Літ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ISSN 0024-4686
№ 43 (4741) 1 лістапада 2013 г.


4 «Новая зямля». Новае


6 Кітайскі сон пра Беларусь


8 Дуда — справа мужчынская?


14 Тое-сёе пра бібліятэкі

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прапанаваў аб'явіць 2015 год у Беларусі Годам моладзі. З такой ініцыятывай ён выступіў на маладзёжным форуме «Традыцыі. Моладзь. Будучыня».

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў суайчыннікаў са знамянальнай датай у гісторыі маладзёжнага руху — 95-годдзем ВЛКСМ. «Для многіх нашых суайчыннікаў назаўсёды застануцца ў памяці гады камсамольскага юнацтва, авеяныя рамантыкай творчых пошукаў, энтузіязмам стваральнай працы і імкненнем будаваць сучаснасць і будучыню сваёй Радзімы», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Падтрымка руху студэнцкіх атрадаў з'яўляецца прыярытэтам дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі ў Беларусі. Пра гэта гаворыцца ў віншаванні Прэзідэнта Беларусі з нагоды 50-гадовага юбілею беларускага студатрадаўскага руху. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што за паўстагоддзя студэнцкія атрады заваявалі вялікі аўтарытэт дзякуючы таму, што ўносяць дастойны ўклад у эканоміку і сацыяльную сферу краіны.

✔ У Магілёве 14 — 19 лістапада пройдзе традыцыйны адкрыты фестываль аматарскага тэатральнага мастацтва «Свята рампы». З пастаноўкамі ў сталіцу Прыдняпроўскага краю прыедуць аматарскія трупы з Оршы, Мазыра, Брэста, Жодзіна, Хоцімска і Мінска. Магілёў прадставяць адразу 5 калектываў. У межах фестывалю адбудзецца традыцыйны конкурс аматарскіх тэатральных калектываў, па выніках якога будуць уручаны спецыяльныя дыпломы і сувеніры ў намінацыях: «Лепшы спектакль» (Гран-пры), «Лепшая мужчынская роля», «Лепшая жаночая роля», «Лепшая рэжысёрская работа».

✔ Міжнародны фестываль духоўнай музыкі «У гонар святой Цэцыліі» распачаўся 30 кастрычніка ў архікатэдральным касцёле імя Прасвятой Дзевы Марыі ў Мінску. Вечары камернай і сучаснай музыкі, выступленні арганістаў будуць праходзіць па 7 снежня. Чакаецца, што перад публікай выступяць музыканты з Даніі, Германіі, Беларусі і Аўстрыі.

✔ Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж» і Музычны Дом «Класіка» запрашаюць у дні восеньскіх канікул школьнікаў, іх настаўнікаў і бацькоў на музычна-тэатральнае прадстаўленне «Вандраванні Радзівіла "Сіроткі"». Тут прагучыць музыка XVI — XVII стст.: «Палацкі сшытак», Войцэх Длугарай, Вінчэнца Галілей, Уільям Брэйд, Джакома Пергалезі, Франчэска Джэміняні.

✔ Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь адкрывае філіял у Гомелі. Дамова аб яго стварэнні падпісаная генеральным дырэктарам галоўнай музычнай сцэны краіны Уладзімірам Грыдзюшкам і дырэктарам культурна-спартыўнага комплексу Гомельскага аддзялення Беларускай чыгункі Іванам Каваленкам. Дакумент прадугледжвае паказ на сцэне Палаца культуры чыгуначнікаў спектакляў і канцэртных праграм рэпертуару Вялікага тэатра Беларусі. Афіцыйнае адкрыццё гомельскага філіяла адбылося 30 снежня, гледачам прадставілі жамчужыну класічнага балета — «Лебядзінае возера» П. Чайкоўскага.

Падрыхтавала
Ярына РЫТАМІНСКАЯ

*Фота Кастуся Дробава*



*Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота ўручае ўзнагароду Алёне Беланожка.*

Чытайце на стар. 2 ▶

## Пытанне да творцы

# Пераможцы — пра конкурс



**Алёна Беланожка (Беларусь). Апавяданне «Грэбень у скрыні».**

Ноч. Група студэнтаў на чале з навуковым кіраўніком выправілася на палявыя работы — лавіць русалку. Так, у будучым з'явіцца новая навука, новая рэлігія і светабачанне — юніверсалогія, і адзіныя боствы для юніверсолагаў — Эксперымент і Навука. Але ці сапраўды магчыма ўтаймаваць і даследаваць старажытныя сілы нашай зямлі?

*«Конкурс даў вельмі многа. Перадусім, вельмі карысныя і надзвычай цікавыя знаёмствы. Гэта чыстая праўда, на пачатку верасня мы ездзілі ў Маскву. Там у межах кніжнага кірмашу быў арганізаваны «круглы стол», дзе мы прэзентавалі альманах з нашымі творамі. Адтуль я прывезла процьму візітных картак, тэлефонаў, а таксама — успаміны, сувеніры… Карысным стала і тое, што творы, у якія я сама была закаханая, нарэшце ўбачылі свет, ну адзін з іх дыкладна, і, магчыма, цяпер яго прачытае не толькі мая мама. Прынамсі, члены журы ўжо прачыталі. І ўсё ж самае галоўнае — гэта людзі, знаёмствы і магчымасці. Акурат гэта конкурс мне даў».*



**Дар'я Вашкевіч (Беларусь). Апавяданне «Соня».**

Добрае і простае апавяданне пра тое, як нараджаецца сяброўства і чаму яно згасае. Гераіня апавядання раптоўна знаходзіць у «Фэйсбуку» старонку сяброўкі дзяцінства Соні, па іроніі лёсу — у графе «Вы можаце іх ведаць». Пасля некалькіх няўдалых спроб напісаць Соні гераіня дастае старую скрыню з паштоўкамі і лістамі і пачынае ўспамінаць…

*«Я ўзяла ўдзел у «Мосце дружбы», бо ўдзельнічаю ўвогуле ўва ўсіх магчымых конкурсах. А спасылку на інфармацыю мне скінуў бацька, сама я пра гэтае творчае спаборніцтва не чула. Тады падумала: чаму б і не? І даслала. Галоўнае ў такіх конкурсах — канечне, публікацыя. Для пісьменніка гэта самае каштоўнае».*



**Аляксандр Масквін (Расія). Апавяданне «Чупакабра».**

Чорнай уральскай ноччу праз лес крадуцца два «крымінальныя элементы». Іх мэта — схаваны ў гушчары манаскі скіт, дзе захаваліся каштоўныя абразы і кнігі. Але здараецца неверагоднае: каля манастыра іх падпільноўвае чупакабра. Пасля сустрэчы з пазасветным цяжка застаця ранейшым чалавекам. І маладзейшы з рабаўнікоў, які цудам уратаваўся ад монстра і вар'яцтва, вяртаецца да ракавога месца…

*«Уласна кажучы, я выпадкова натрапіў на інфармацыю пра конкурс у сецыве. У мяне якраз на той момант ляжаў гатовы аповед. А ў выніку я атрымаў магчымасць прыехаць у Мінск, пазнаёміцца, так бы мовіць, з калегамі, узбагаціцца новымі ўражаннямі. Але сказаць, што самае галоўнае з вышэйпералічанага, складана. Тут немагчыма правесці градацыю. Не скажу, каб перамога адразу ж натхніла мяне на новыя творы, але ж уражанні ёсць, і ў нечым гэта адаб'ецца».*

# Першы «мост» пракладзены!

24 кастрычніка ў Нацыянальнай бібліятэцы адбылося ўрачыстае ўзнагароджанне пераможцаў першага Міжнароднага літаратурнага конкурсу маладых аўтараў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі «Мост дружбы».



*Фота Кастуся Дробава*

*Георгій Фамін, Дар'я Вашкевіч, Мікалай Андрэеў, Алёна Беланожка, Маргарыта Латышкевіч, Аляксандр Масквін.*

Распачаўся конкурс яшчэ год таму. Мэтай яго былі абвешчаныя пошук, адкрыццё і падтрымка маладых таленавітых аўтараў, прыцягненне іх увагі да гісторыі, культуры і літаратурных традыцый Беларусі і Расіі, будаўніцтва Саюзнай дзяржавы. Пакуль складана сказаць нешта пэўнае пра мэты доўгатэрміновыя, але што да «пошуку і адкрыцця таленавітых аўтараў» — гэта ўдалося. Экспертны савет, у склад якога ўвайшлі вядомыя літаратары і дзеячы Беларусі і Расіі, вызначыў дзесяць пераможцаў. Натуральна, сярод іх — пяць беларусаў і пяць расіян. Мікалай Андрэеў, Алёна Беланожка, Дар'я Вашкевіч, Маргарыта Латышкевіч і Вольга Чэркас названыя лепшымі ад беларускага літаратурнага боку. Маргарыта Каткова, Сяргей Лагодзін, Аляксандр Масквін, Таццяна Трафімава і Георгій Фамін — ад расійскага.

Членамі экспертнага савета сталі празаік, доктар філалагічных навук Анатоль Андрэеў; пісьменнік і галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Алесь Бадак; пісьменнік і шэф-рэдактар дадатку «Лад» у «Литературной газете» Аляксандр Кажадуб; прэс-сакратар Дзяржаўнага сакратара Алена Аўчарэнка; паэтэса, галоўны рэдактар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» Таццяна Сівец; рэктар Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага Барыс Тарасаў і празаік, галоўны рэдактар часопісаў «Проза» і «Вестник детской литературы» Аляксандр Торапцаў.

З пытаннем, ці ўдалося спалучыць ці хоць бы наблізіць беларускую і рускую літаратурныя традыцыі, мы звярнуліся да Аляксандра Торапцава.

— Мушу сказаць, што агульныя матывы для двух народаў бачныя ў кожным творы, — адказвае Аляксандр Пятровіч. — Так, гэта ўласціва ім усім. Але ж пра густы не спрачаюцца, ці не так? Мяне асабіста моцна ўразіў Сяргей Лагодзін, які напісаў апавяданне «Джулай», — спадар Аляксандр разгарнуў часопіс, каб працытаваць радок з аповеду: «— Жил он у самой реки на отшибе. И часто, по весне, его дом затопляла река». Які гэта аповед! Як ён напісаны! Зусім малады аўтар, 1990 года нараджэння, а так ужыўся ў душу старога Джулая. Тут — лепшыя традыцыі рускамоўнай літаратуры… Я лічу, што ў любой дзяржавы — тры багацці: гісторыя, народ і слова. Усё астатняе — глупства. Дык вось, добрая думка — яна і ёсць тое самае слова. Чалавеку, які прыдумаў гэты «Мост дружбы», трэба ставіць помнік. Не тое каб мы пайшлі насустрач адно аднаму па гэтым мосце — і раней былі разам. Конкурс — сродак умацавання «моста».

На думку Аляксандра Торапцава, першы «Мост дружбы» ўдаўся: «Яшчэ калі мы абіралі пераможцаў у Літінстытуце, усе ў адзін голас казалі, як гэта здорава… І абавязкова трэба мець на ўвазе: малады друкуюць — яны працуюць больш. Бо цяпер з гэтай справай у Маскве зусім блага. У маіх студэнтаў (спадар Аляксандр — дацэнт Літінстытута. — **А. Г.**) вочы гараць да пятага курса. А потым яны разумеюць, што ісці няма куды».

У цырымоніі ўзнагароджання таксама бралі ўдзел Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота, Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў, намеснік Міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Матусевіч, кіраўнік Прадстаўніцтва Пастаяннага Камітэта Саюзнай Дзяржавы ў Мінску Міхаіл Орда. Гэта яшчэ раз падкрэслівае значнасць літаратурнага конкурсу, і значнасць не толькі культурную.

Цікава, што ідэя літаратурнага конкурсу «Мост дружбы» не арыгінальная. Папярэднічаў ёй праект з удзелам маладых італьянскіх і расійскіх літаратараў, які быў ажыццёўлены ў першую чаргу дзякуючы энтузіязму Антонія Фаліка, Прэзідэнта Асацыяцыі «Пазнаём Еўразію». Поспех праекта падштурхнуў да правядзення аналагічнага беларуска-расійскага конкурсу, арганізатарамі якога сталі Пастаянны Камітэт Саюзнай дзяржавы, Асацыяцыя «Пазнаём Еўразію», Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага і выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».

Удзельнічалі ў конкурсе аўтары ва ўзросце ад 18 да 30 гадоў. Абраным конкурсным жанрам стала апавяданне, якое патрабуе ад аўтара надзвычайнай ёмістасці і ўвагі да дэталяў, умення вылучаць побытавыя, псіхалагічныя дэталі і выбудоўваць сюжэтныя нюансы. Ці сапраўды пераможцам конкурсу гэта ўдалося? Замест адказу і нават лепш за любы адказ — літаратурны альманах, які пабачыў свет у Выдавецкім доме «Звязда». Тут змешаны творы дзесяці лепшых аўтараў, прытым апавяданні можна прачытаць на дзвюх мовах — беларускай і рускай.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

## Повязі

# Цікавасць ёсць…

Рэальным унёскам у будаўніцтва Саюзнай дзяржавы магло б стаць канструктыўнае асвятленне жыцця Беларусі ў расійскіх СМІ.

Гэтае меркаванне выказаў журналістам Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Расіі Ігар Петрышэнка падчас экспертна-медыйнага форуму-семінара «Інфармацыйнае аблічча Саюзнай дзяржавы», які днямі адбыўся ў Маскве.

Кіраўніцтва краіны пастаянна праяўляе гатоўнасць кантактаваць з расійскімі сродкамі масавай інфармацыі. У прыватнасці, Прэзідэнт Беларусі штогод сустракаецца з прадстаўнікамі масмедыя федэральных і рэгіянальных СМІ ўсходняй суседкі. Цягам года менавіта ў Беларусі прайшлі такія значныя сумесныя медыйныя мерапрыемствы, як выстаўка «СМІ ў Беларусі», VIII Міжнародны медыяфорум, першы Беларуска-расійскі форум маладых журналістаў, XV Сусветны кангрэс рускай прэсы.

Паводле Ігара Петрышэнкі, на рынку нашай краіны прадстаўлена звыш 4 тысяч найменняў расійскіх друкаваных выданняў. Жыхары Беларусі маюць магчымасць глядзець вядучыя расійскія тэлеканалы.Для Беларусі ж магчымасцей распаўсюджваць інфармацыю ў Расіі пакуль значна менш. Між тым пасол упэўнены: цікавасць да такой інфармацыі з боку расійскіх грамадзян існуе.

**Іна ЛАЗАРАВА**

## Тэле-ЛіМ

# Пра мову, кнігі і прыгожае

4 лістапада ў 10.25 і 22.30 глядзіце на канале «Беларусь 3» праграму «Дыя@блог. Пра мову», у якой вядучы Навум Гальпяровіч сустрэнецца з Аленай Трацэнка, рэдактарам тэлерадыёкампаніі «Гомель». Вядучая папулярнай праграмы «Размаўляем па-беларуску» распавядзе пра ўласны шлях да роднай мовы і адкажа на пытанні пра беларускамоўныя праекты Гомельскага тэлебачання. У той самы дзень у 20.50 пачнецца паказ серыяла «Пацалунак Сакрата» паводле рамана Вольгі Тарасевіч. Да гутаркі з пісьменніцай можна будзе далучыцца ў аўторак (10.25 і 22.30) падчас праекта «Дыя@блог. Пра літаратуру».

У сераду, 6 лістапада, Таццяна Кубліцкая, мастак-пастаноўшчык студыі анімацыйных фільмаў кінастудыі «Беларусьфільм», паразважае пра лёс айчыннай анімацыі з вядучым «Дыя@блогу. Пра прыгожае» Сяргеем Макарэем.

7 лістапада «Беларусь 3» распачынае дакументальны цыкл «Год у гісторыі». Штодня па буднях гледачы змогуць даведацца пра адзін год з найноўшай гісторыі праз найбольш значныя для нашай краіны падзеі: першае выступленне гурта «Сябры», адкрыццё мемарыяльнага комплексу «Курган славы» і г. д.

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

## Канферэнцыі

# Вочы ў вочы, мыслі ў мыслі

На філалагічным факультэце БДУ 24 — 25 кастрычніка прайшла чарговая, XI Міжнародная навуковая канферэнцыя «Славянскія літаратуры ў кантэксце сусветнай».

Гэтым разам яна была прысвечана 900-годдзю Кірылы Тураўскага і 200-годдзю Тараса Шаўчэнкі. Два дні творча працавала дзевяць секцый: «Літаратурная спадчына Кірылы Тураўскага і тэндэнцыі развіцця старой і новай беларускай літаратуры», «Творчасць Тараса Шаўчэнкі і дыялог славянскіх літаратур», «Нацыянальная карціна свету ў літаратурнай класіцы, міфалогіі і фальклоры» і іншыя. Усяго было прачытана звыш 150 дакладаў. Зразумела, асноўныя, «запеўныя» даклады былі вынесены на пленарнае пасяджэнне. Сярод асноўных — даклады дацэнта загадчыка кафедры гісторыі беларускай літаратуры Таццяны Казаковай «Мастацкі свет Кірылы Тураўскага і Грыгорыя Цамблака» і прафесара, загадчыка кафедры тэорыі літаратуры БДУ Вячаслава Рагойшы «Кабзар» Тараса Шаўчэнкі ва ўзнаўленні Уладзіслава Сыракомлі». Доктар філалагічных навук прафесар Нана Гапрындашвілі, якая ў свой час прыязджала ў Беларусь, вывучала беларускую мову і літаратуру, грунтоўна прааналізавала «Грузінскія пераклады твораў Уладзіміра Караткевіча і ідэйна-эстэтычны кантэкст эпохі».

Цікавыя навукова-рэфератыўныя прамовы прагучалі і падчас работы секцый. Неўзабаве з усімі працамі, якія прапанавалі вядучыя навукоўцы-філолагі Беларусі, Расіі, Украіны, можна будзе пазнаёміцца і шырокай навуковай грамадскасці. Матэрыялы канферэнцыі аператы ўна рыхтуюцца да друку.

У межах мерапрыемства адбылася прэзентацыя кнігі выбраных паэтычных перакладаў прафесара Вячаслава Рагойшы «Вочы ў вочы, мыслі ў мыслі». Студэнты чыталі вершы па-беларуску, а тым часам на экране высвечваліся радкі арыгінальных твораў Тараса Шаўчэнкі, Івана Франко, Уладзіміра Сасюры… Пра В. Рагойшу як тэарэтыка і практыка перакладу (да прэзентацыі факультэцкая бібліятэка падрыхтавала вялікую выстаўку адпаведных выданняў) гаварылі і нашы вучоныя-філолагі, і госці: Таццяна Шамякіна і Яўген Гарадніцкі з Мінска, Нана Гапрындашвілі з Тбілісі, Таццяна Мейзерская з Кіева, Людміла Зіневіч з Чарнігава ды іншыя. Некаторыя прыгадвалі свае сустрэчы з перакладчыкам падчас розных навуковых форумаў, чыталі пераствараннi вершаў украінскіх і грузінскіх паэтаў, успаміналі гады вучобы ў БДУ.

Вёў прэзентацыю намеснік дэкана філфака дацэнт Павел Навойчык, якога нядаўна абралі новым старшынёй Беларускай асацыяцыі ўкраіністаў. Гэта рэгіянальнае аддзяленне Міжнароднай асацыяцыі ўкраіністаў, штаб-кватэра якой знаходзіцца ў Кіеве. І сама канферэнцыя, прысвечаная юбілею вялікага Кабзара, і прэзентацыя кнігі, у якой пераклады з украінскай мовы займаюць больш як палову, — сведчанне актыўнасці сучасных беларуска-украінскіх літаратурных і навуковых стасункаў.

**Міхась КЕНЬКА**

# Гульня ці не гульня?

**У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі адбылася прэзентацыя паэтычнага зборніка гродзенскага паэта Анатоля Брусевіча «Апошні дзень».**

Калі ўлічыць месца падзеі і візначальныя сэнсы дзеі, становіцца не магло не выглядаць парадаксальным. Бібліятэка імя *Якуба Коласа* — пляцоўка прэзентацыі твораў, «ахрышчаных» аўтарам і часткай яго крытыкаў як *неадэкаданс*! Праўду кажучы, што сучасны свет — сінкрэтычная прастора, дзе магчыма перакрыжаванне самых розных, палярных з'яў.

Анатоль Брусевіч — паэт, перакладчык, дацэнт кафедры польскай філалогіі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, даследчык спадчыны Адама Міцкевіча, далёкі родзіч славутай Цёткі, аўтар трох паэтычных кніг. Апошняя з іх — спроба падсумавання зробленага за дваццаць год. «Я не ганюся за штампаваннем зборнікаў. Таму цяпер магу чытаць любы верш, не выбіраючы загадзя». Што праўда, то праўда: амаль усе вершы вылучаюцца высокім узроўнем, калі мецъ на ўвазе мелодыю гучання, нечаканасць і навізну вобразаў, яскравасць уражання. «Інтэлігентная паэзія», — адзначыў прафесар і літаратурны крытык Іван Саверчанка.

Дык што наконт дэкадансу? Каб зразумець, «неа» ён ці не «неа», варта зірнуць на адпаведнасць «матчынай» плыні. Класічны дэкаданс акцэнтуе крайнасці мінорнага стану, які не імкнецца пераадолець, — наадварот, паэтызуе і тым ідэалагізуе яго. Адарванасць ад рэальнасці — выклік ёй: што, маўляў, агульнага паміж намі, вытанчанымі паэтамі, і ўшчэнт прагматызаваным светам? Не прымаць яго пад увагу, застаецца наўзбоч — адзінае годнае выйсце. Такія матывы ў паэта з Гродна, безумоўна, ёсць: *«Добра быць Анатолем Брусевічам і глядзець праз акно...»* Або з «Маніфеста дэкадансу»: *«Падаць трэба ўмець прыгожа, // як падаюць цені, як падаюць промні...»* Але большасць вершаў — класічныя замалёўкі, якія нясуць аб'ёмнае ўражанне суму і адыходу ад яго ў замілаванні прыгажосцю свету. Не дэкадэнцкая і назва зборніка — «Апошні дзень».




Сучасныя праявы неадэкадансу (паэтычныя пошукі «аднадумцаў» А. Брусевіча) не набылі арыгінальнасці ў параўнанні з агульнымі прынцыпамі гэтай плыні светапогляду і адпаведнага мастацтва апошняй трэці XIX — пачатку XX стагоддзя. «Зямля-магілкі» і «неба-сышчак» — вызначальны фундамент дэкадансу і тады, і цяпер. Адрозненне — у эвалюцыі рэалій свету за больш як сто год нарошчвання ўзроўняў яго прагматызацыі. Але на месцы А. Брусевіча я б перасцерагла ся імкнуцца да адпаведнай традыцыі. У гранічных сваіх праявах дэкаданс — безумоўнае зло, калі мець на ўвазе, што гранічна ідэалізаваныя каштоўнасці (у дадзеным выпадку — адвечная прыгажосць, усёабдымная бяздзейсная туга, пратэст супраць прагматызаванай цывілізацыі) мусяць ператварацца ў процілегласці. Супрацьлегласцю цывілізацыі, няхай і прагматызаванай, будзе... варварства.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Творцы на суботніку

**Суботняя раніца сустрэла пісьменнікаў-актывістаў нечаканым сонечным надвор'ем.**

З кожным цёплым промнем узнімаўся і настрой прысутных. Дапамагчы роднаму гораду выглядаць яшчэ больш прывабна і ўтульна прыйшлі і моладзь, і больш сталыя літаратары Мінскага гарадскога аддзялення СПБ. Сярод іх — паэтэса Аліна Легастаева, творчы кіраўнік літаратурнага аб'яднання «Натхненне» Вольга Сакалова, празаік Валерый Чудаў, паэтэса Таісія Трафімава, супрацоўнік Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Іна Фралова, крэатыўны Юрась Нераток, а таксама маладыя і таленавітыя Алесь Бараноўскі і Яна Явіч.

Не абышлося ў творчых людзей без спрэчак і дыскусій. Аднак за дыспутамі і размовамі яны не забыліся і пра тое, з якой мэтай сабраліся гэтай раніцай. Пад жвавымі рухамі вырасталі велізарныя, як калматыя рыжыя аблокі, копы сабранага лісця. І нават вецер-гаспадар ацаніў працу пісьменнікаў і не свавольнічаў...

Потым, з пачуццём прыемнай стомленасці, за размовамі, усе частаваліся сапраўднай салдацкай кашай, прыгатаванай вайскоўцамі на палявой кухні.

Традыцыйным завяршэннем сустрэчы, якую па праве можна назваць святам, стаў агульны фотаздымак на ўспамін.

**Ганна СТАРАДУБ**

# Гісторыя з-пад бойкага пяра




У мінскай кнігарні «Светач» адбылася прэзентацыя новай кнігі члена СПБ Міхаіла Галдзянкова «Великая забытая война: трагедия и позор Российской империи (1914 — ?)», у якой аўтар даследуе падзеі таго часу і ў навукова-папулярнай форме прапануе ўласную гістарычную трактоўку.

М. Галдзянкоў, якога добрыя знаёмыя часцей называюць Майклам, працуе на стыку жанраў папулярнай гісторыі і гістарычнага рамана. Уменне працаваць з архіўнымі дакументамі дае фактаЛагічную аснову, валоданне іншымі мовамі дазваляе рабіць нечаканыя змычкі паміж тэрыторыямі і народамі. Веданне гістарычных заканамернасцей і псіхалогіі чалавека робяць праўдзівымі нават змадэляваныя ў прозе сітуацыі. А бойкае пяро выводзіць ягоныя гістарычныя і мастацкія кнігі на ўзровень, цікавы для інтэлектуала і даступны для масавага чытача.

**Ігар ГРАДОЎСКІ**

# Бывай, дружа…



Абарвалася жыццё выдатнага чалавека Генадзя Максімавіча Пархоменкі, члена Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Нарадзіўся ён у Гомелі ў жніўні 1940 года ў сям'і патомных вайскоўцаў. І гэта вызначыла яго лёс. Скончыўшы Маскоўскі ваенны інстытут замежных моў, атрымаў званне лейтэнанта, стаў кадравым афіцэрам.

У 1975 г. скончыў Ваенна-палітычную акадэмію імя У. І. Леніна. Служыў у Беларускай, Забайкальскай і Далёкаўсходняй акругах, у войсках спецыяльнага прызначэння. Выконваў воінскі абавязак у Алжыры.

Генадзь Максімавіч — палкоўнік у адстаўцы, таленавіты празаік, цікавы суразмоўца. Выдаў некалькі кніг аповесцей, апавяданняў, дакументальных нарысаў. Працаваў над чарговай кнігай пра сваю службу ў замежжы. Узнагароджаны двума ордэнамі і дваццаццю медалямі.

Смуткуем з прычыны смерці Г. Пархоменкі і выказваем спачуванне родным і блізкім нябожчыка.

**Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі**

**Каляндар літаратурных дат і падзей**
***Лістапад***

**1 лістапада** — 140 гадоў з дня нараджэння Івана Замоціна (1873 — 1942), літаратуразнаўца, крытыка, акадэміка НАН Беларусі, члена-карэспандэнта АН СССР.

**1 лістапада** — 105 гадоў з дня нараджэння Яўгеніі Пфляўмбаўм (1908 — 1996), паэтэсы, перакладчыцы.

**1 лістапада** — 80 гадоў з дня нараджэння Вячаслава Адамчыка (1933 — 2001), пісьменніка, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1980) і Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1988).

**1 лістапада** — 80 гадоў з дня нараджэння Веры Ляшук (1933), літаратуразнаўца, краязнаўца, заслужанага работніка вышэйшай школы Беларусі.

**1 лістапада** — 65 гадоў з дня нараджэння Міколы Пракаповіча (1948), паэта, журналіста.

**8 лістапада** — 130 гадоў з дня нараджэння Вацлава Ластоўскага (1883 — 1938), вучонага-гісторыка, філолага, этнографа, пісьменніка, публіцыста, літаратуразнаўца, акадэміка НАН Беларусі, члена-карэспандэнта Украінскай акадэміі грамадазнаўства ў Празе, грамадска-палітычнага дзеяча.

**8 лістапада** — 110 гадоў з дня нараджэння Міхася Явара (1903 — 1933), паэта.

**8 лістапада** — 105 гадоў з дня нараджэння Міхася Багуна (Міхаіла Фёдаравіча Блошкіна, 1908 — 1938), пісьменніка, перакладчыка.

**11 лістапада** — 450 гадоў з дня нараджэння Марціна Сміглецкага (1563 — 1618), тэолага, філосафа, пісьменніка-палеміста, аўтара трактата «Логіка» (1618).

**12 лістапада** — 190 гадоў з дня нараджэння Паўла Шпілеўскага (1823 — 1861), этнографа, фалькларыста, пісьменніка, публіцыста, тэатральнага крытыка, драматурга.

**12 лістапада** — 55 гадоў з дня нараджэння Леаніда Пранчака (1958), паэта, публіцыста.

**16 лістапада** — 120 гадоў з дня нараджэння Леанілы Чарняўскай (1893 — 1976), пісьменніцы, перакладчыцы.

**18 лістапада** — 130 гадоў з дня нараджэння Язэпа Лёсіка (1883 — 1940), мовазнаўца, пісьменніка, педагога, акадэміка НАН Беларусі, грамадска-палітычнага дзеяча.

**19 лістапада** — 105 гадоў з дня нараджэння Міколы Засіма (1908 — 1957), паэта.

**20 лістапада** — 65 гадоў з дня нараджэння Яўгеніі Янішчыц (1948 — 1988), паэтэсы, лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978) і Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Купалы (1986).

**20 лістапада** — 60 гадоў з дня нараджэння Міхася Шаховіча (1953 — 2000), журналіста, паэта, фалькларыста, выдаўца.

**21 лістапада** — 75 гадоў з дня нараджэння Ізяслава Катлярова (1938), паэта, публіцыста.

**23 лістапада** — 90 гадоў з часу ўтварэння першага літаратурнага аб'яднання пісьменніцкай моладзі БССР «Маладняк» (1923 — 1928).

**24 лістапада** — 100 гадоў з дня нараджэння Вісарыёна Гарбука (1913 — 1986), пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

**26 лістапада** — 95 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Шахаўца (1918 — 1991), пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

**27 лістапада** — 110 гадоў з дня нараджэння Піліпа Пестрака (1903 — 1978), пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі, лаўрэата Літаратурнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1964).

**28 лістапада** — 85 гадоў з дня нараджэння Анатоля Чаркасава (1928), празаіка, нарысіста, перакладчыка.

**30 лістапада** — 225 гадоў з дня нараджэння Казіміра Буйніцкага (1788 — 1878), пісьменніка, публіцыста, краязнаўца.

## Абрысы

Дзень нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа традыцыйна будзе адзначаны шматлікімі мерапрыемствамі. Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа ўчора правёў міжнародны «круглы стол» «Мемарыяльны музей і грамадства. Захаванне культурнай спадчыны. Музей ва ўмовах развіцця новых інфармацыйных тэхналогій». Сёння абдудзецца XXVIII Міжнародная навуковая канферэнцыя «Зямля — аснова ўсёй Айчыне», прысвечаная 90-годдзю выхаду з друку паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». А 2 лістапада Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа запрашае на адкрыццё першай чаргі экспазіцыі «Прырода ў жыцці і творчасці Якуба Коласа», інтэрактыўнай зоны «Хатка знахаркі» на мемарыяльнай сядзібе Альбуць.

Літаратурна-музычная вечарына «З Купалам у сэрцы» адбылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Яе ўдзельніцамі сталі члены Мінскага міжнароднага клуба жонак паслоў, дыпламатаў і замежных прадстаўнікоў на чале з прэзідэнтам клуба Шарыпой Булегеневай, жонкай пасла Рэспублікі Казахстан. З ахвотай і задавальненнем жонкі дыпламатаў узялі ўдзел у грамадска-культурнай акцыі «Чытаем Купалу разам», распачатай музеем у 2011 годзе. Госці чыталі вершы Купалы на рускай, украінскай, азербайджанскай, армянскай, грузінскай і казахскай мовах.

Беларускаму дзяржаўнаму ўніверсітэту 30 кастрычніка споўнілася 92 гады. Афіцыйная частка святочных мерапрыемстваў прайшла ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Прадстаўнікі прафесарска-выкладчыцкага і навуковага складу сталі ўдзельнікамі ўрачыстага пасяджэння Савета БДУ, дзе былі ўручаныя вышэйшыя універсітэцкія ўзнагароды — прэміі імя Уладзіміра Пічэты і Антона Сеўчанкі за 2013 год. Прагучалі віншаванні ў адрас супрацоўнікаў, якім прысвоена званне «Заслужаны работнік БДУ».

Рускамоўнаму «Альманаху Паэзіі», які штогод выходзіць у Лос-Анджэлесе (ЗША), споўнілася 20 гадоў. За гэты час на яго старонках былі надрукаваны творы многіх беларускіх і рускіх паэтаў. Многія гады з гэтым выданнем актыўна супрацоўнічае член Саюза пісьменнікаў Беларусі, былая мінчанка, а цяпер жыхарка амерыканскага мегаполіса Іна Саніна. У юбілейным выпуску сярод твораў 50 мясцовых і вядомых паэтаў свету прадстаўлены вершы Анатоля Аўруціна, Міхася Пазнякова, Марыі Маліноўскай. Выданне карыстаецца попытам у розных кутках рускамоўнай прасторы Амерыкі. Яно зарэгістравана ў Бібліятэцы Кангрэса ЗША.

# Зямля ўспамінаў, мрояў і надзей

Пачатак «Новай зямлі», яе першы раздзел, ва ўспрыманні чытача асацыіруецца перш за ўсё з аповедам аўтара пра «родны кут», «леснікову пасаду». Для гэтага сапраўды ёсць усе падставы, асабліва калі мець на ўвазе першы раздзел цалкам, з яго славутым апісаннем-паэтызацыяй роднага котлішча. У ім шматбакова і дэталёва выяўлены галоўны хранатоп Коласавага твора, што прадстаўляе мясціны, у якіх прайшлі дзіцячыя гады аўтара-апавядальніка. Першая фраза паэмы, якая даўно стала крылатай, непасрэдна ўводзіць у асноўную тэму раздзела. Заяўлены ў ёй матыў любові да роднай зямлі стане затым сэнсава-эмацыянальным цэнтрам усяго аповеду.

*Новая зямля і родны кут* — з гэтымі найважнейшымі, канцэптуальнымі для Коласавага паэтычнага шэдэўра паняццямі мы сустракаемся на самым яго пачатку. Першае з іх з'яўляецца назвай твора, другім пачынаецца твор. Выкажам меркаванне, што якраз родны кут (а калі браць шырэй — свет усталяванага, традыцыйнага жыццёвага ладу, які ўспрымаецца з часава-прасторавай дыстанцыі) і прадстае ў канчатковым выніку той новай, запаветнай зямлёй, да якой скіраваны думы і летуценні апавядальніка.

Асаблівасць наратыўнай структуры паэмы вызначаецца тым, што ў ёй аўтар выступае адначасова ў ролі апавядальніка і героя. Ён, такім чынам, знаходзіцца і ў знешняй адносна мастацкага свету твора пазіцыі, і разам з тым можа ўспрымаць гэты свет знутры, з пункту гледжання дзеючай асобы. Зыходзячы з гэтага, неабходна адрозніваць светаўспрыманне герояў паэмы, уключаючы і аднаго з сыноў Міхала і Ганны — Кастуся, і светаўспрыманне апавядальніка, у творчым уяўленні якога разгортваецца ўвесь прадметны і падзейны змест мастацкага свету твора.

Усе героі паэмы жывуць сваім звыклым жыццём, яны скіраваны на дасягненне канкрэтных жыццёвых мэт, вырашаюць практычныя задачы, з якімі сутыкаюцца ў паўсядзённасці. Ва ўзаемаадносінах з іншымі, у побыце, у сваіх думках і марах яны, выяўляючы сваю чалавечую сутнасць і псіхалагічную характарнасць, застаюцца ўнутры мастацкага свету твора. Толькі аўтар, ён жа ў дадзеным выпадку апавядальнік, можа ўспрымаць герояў паэмы збоку, у яго свядомасці яны паўстаюць у сваёй вобразнай завершанасці і чалавечай увасобленасці. Дзякуючы пазіцыі знаходжання па-за межамі твора аўтар валодае значна шырэйшым, чым у герояў, кругаглядам.

Паняцце кругагляду ў дачыненні да аўтара і герояў яго твора было сфармулявана М. Бахціным. У манаграфіі «Праблемы паэтыкі Дастаеўскага» ён адзначаў, што «завяршальны татальны сэнс жыцця і смерці кожнага персанажа раскрываецца толькі ў аўтарскім кругаглядзе і толькі за кошт дамінавання гэтага кругагляду над кожным з персанажаў, гэта значыць за кошт таго, што сам персанаж ні бачыць, ні разумець не можа».

Менавіта такім кругаглядам валодаюць аўтар і апавядальнік, які рэпрэзентуе яго пазіцыю ў паэме. Кругагляд аднаго з персанажаў — Кастуся, прататыпа аўтара — падпарадкоўваецца гэтаму ўсеахопнаму кругагляду, паколькі дадзены вобраз паўным чынам адстаронены ад аўтара і ўспрымаецца ў мастацкім свеце твора не як суб'ект выражэння, а як адзін з аб'ектаў увасаблення. Аўтарская апавядальная стратэгія прыводзіць да таго, што вобраз Кастуся і вобраз апавядальніка, якія, па сутнасці, у аднолькавай ступені звязаны генетычна з аўтарам, успрымаюцца як два асобныя вобразы. Мы чытаем, напрыклад: «*І Костусь, мушу я прызнацца, / Ўжо ўмеў на дошцы распісацца...*» І ў нас не ўзнікае думкі, што выяўленыя ў дадзеным выпадку праз уласнае імя і займеннік першай асобы суб'екты можна ў прынцыпе атаясаміць з адным чалавекам.

Істотнае значэнне ў размежаванні кругаглядаў аўтара і героя ў творы аўтабіяграфічнага характару мае часавая дыстанцыя. Кастусь, як і іншыя персанажы паэмы, існуе ў сваім часе, які вызначаецца як мастацкі час твора або час дзеяння. Аўтар жа як рэальная асоба жыве ў сваім біяграфічным часе, пранікаючы ў мастацкі свет твора, свет свайго ўяўлення, толькі ў працэсе творчасці. Патрэбна яшчэ вылучыць асобна час нарацыі як уласцівы для апавядальніка. Гэта час, які патрабуецца для разгортвання апавядальнага дыскурсу.

З нараталагічнага пункту гледжання паэма «Новая зямля», па сутнасці, не разглядалася. Аналітычныя інтэнцыі даследчыкаў сканцэнтроўваліся ў асноўным на прадметна-змястоўным плане твора, у той час як па-за ўвагай заставаліся яго наратыўная структура, суадносіны пунктаў гледжання аўтара, апавядальніка і герояў, спосабы і прыёмы вядзення аповеду. Добра вывучаны аб'ектыўны змест выдатнага твора, які



*Сядзіба ў Смольні.*


*Коласаў дуб.*

справядліва называюць энцыклапедыяй беларускага жыцця. Аднак пакуль, як нам здаецца, недастаткова даследаваныя спосабы выяўлення ў творы аўтарскай свядомасці, не раскрыты характар суб'ектыўнага, асабовага выражэння аўтара як апавядальніка.

Не заўсёды пры разглядзе мастацкай адметнасці паэмы Я. Коласа прымаецца пад увагу тая акалічнасць, што гэты паэтычны твор адносіцца да твораў апавядальных, а значыць, на яго структуру, а разам з тым і на выяўлены ў ім мастацкі свет, аказваюць значны ўплыў наратыўныя прыёмы, манера расказвання. Прысутнасць аўтара-апавядальніка звычайна фіксуецца ў так званых *лірычных адступленнях*, тых месцах тэксту, дзе апавядальнік прамаўляе ад уласнага імя, выказваючы свой погляд на пэўныя падзеі і асоб. Гэтыя адступленні называюцца яшчэ аўтарскімі.

Сапраўды, выяўленасць пункту гледжання апавядальніка ў *лірычных адступленнях* паэмы найбольш прыкметная. Можна з упэўненасцю сказаць, што яны з'яўляюцца моцнымі месцамі ў выяўленні аўтарскай пазіцыі. Звернемся зноў да самага пачатку паэмы. У першым жа радку знаходзім два займеннікі, звязаныя з суб'ектам нарацыі (прыналежны займеннік *мой* і асабовы *мне*), прычым словам «мой» гэты радок, а значыць, і ўся паэма, пачынаецца. Усяго ж у першай страфе твора налічваецца тры асабовыя і тры прыналежныя займеннікі. Такім чынам, адразу ўзмоцнена акцэнтуецца пазіцыя аўтара, аповед пачынаецца як выказванне менавіта яго асабістага пункту гледжання, выражанага праз «я» апавядальніка.

Мы з поўным правам можам называць як аўтарскімі, так і лірычнымі ўключаныя ў склад паэмы фрагменты, у якіх выказванне зыходзіць ад суб'екта, пазначанага формай займенніка першай асобы. Лірычны дыскурс натуральна спалучаецца ў «Новай зямлі» з апавядальна-эпічнай асновай. Безумоўна, наўрад ці было б правамерным прадстаўляць у дадзеным выпадку лірычны і эпічны дыскурсы як раўназначныя. Паэму нельга аднесці да ліра-эпічнай жанравай разнавіднасці, паколькі ў ёй усё ж дамінуе менавіта наратыўнасць як спосаб аб'ектывізаванага прадстаўлення мастацкай рэальнасці. Разам з тым трэба прызнаць, што лірызм як выражэнне ўнутранага свету аўтара, яго настрояў, адчуванняў і памкненняў выразна прысутнічае ў паэме. Ён не толькі з'яўляецца адной з характэрных адзнак стылю, але і вызначальным фактарам фарміравання наратыву.

Функцыі апавядальніка ў «Новай зямлі» вызначаюцца не толькі тым, што менавіта ў яго ўспамінах і ўяўленні адбываецца паэтычнае ўзнаўленне мастацкага свету твора, але і непасрэдным выражэннем ім сваіх поглядаў, настрояў, ацэнак.

Як ужо адзначалася, у першым лірычным адступленні паэмы акцэнтуецца вобраз «роднага кута» як пэўнага топаса, мастацкага ўвасаблення важнейшага жыццёвага хранатопа. Пры гэтым звяртаецца ўвага на асабістую далучанасць аўтара-апавядальніка да выяўленых ім духоўных каштоўнасцей. Але названы вобраз-топас не адзіны ў пачатковых лірычных строфах, якія папярэднічаюць асноўнай апісальнай частцы першага раздзела. Родны кут як топас, цвёрда зафіксаваны ў прасторава-часавых каардынатах, суадносіцца з вобразам больш плыннага, пераменлівага характару — вобразам-топасам «*дарогі жыцця*».

Затым узнікае шырока распаўсюджаны ў беларускай паэзіі і фальклоры вобраз, які з'яўляецца адным з важнейшых архетыпаў нацыянальнай мастацкай свядомасці, — вобраз *вясны*. У творах пары станаўлення беларускай літаратурнай класікі, у тым ліку і ў творах самога Я. Коласа, ён звычайна набываў сацыяльныя канатацыі, звязаныя з асэнсаваннем гістарычнага лёсу народа і перспектыў яго існавання. Сацыяльная семантыка дадзенага вобраза адчуваецца і на пачатку Коласавай паэмы. Паэт знаходзіўся ў той час у турэмным зняволенні, быў прымусова адарваны ад усяго, што ўспрымалася ім у якасці экзістэнцыяльнай асновы, грунту жыцця. Таму элегічны настрой аўтара выразна адбіўся і на гэтым вобразе, семантычнае ядро якога мае наогул станоўчы зарад.

Вясна жыцця, пара юнацкіх мрояў, паўстае ва ўспрыманні вязня не ў сваім сапраўдным вобліку. Паэт наракае на тое, што для яго вясна стаецца «ўбогай», што яна сваёй няспраўджанасцю прыносіць замест надзеі і радасці такую ж стому, як і жыццёвыя нягоды. «*Цябе навек, вясна, хаваю*», — з горыччу канстатуецца і перажываецца ім стан адчужанасці ад роднага асяроддзя і нармальных умоў жыцця. Сапраўдная вясна ёсць на свеце, але яна квітнее ў гэты час для іншых.

У страфе, дзе аўтар-апавядальнік, разважаючы пра сваё незайздроснае становішча, звяртаецца да вясны як сімвала недасяжнасці, выяўляюцца, вядома, не толькі сацыяльныя калізіі. Аўтарская медытацыя скіравана тут і да пытанняў анталагічнага характару. У элегічнай страфе, якая пачынаецца словамі «*Вясна, вясна! не для мяне ты!..*» і якая па сваёй структурнай цэласнасці можа ўмоўна разглядацца ў якасці самастойнага лірычнага твора, роздум паэта закранае праблемы натурфіласофскага асэнсавання быцця.

Традыцыя натурфіласофскага светаўспрымання, заснаванага на ўяўленнях пра цыклічнасць працэсаў, што адбываюцца ў прыродзе, знайшла шырокае ўвасабленне ў творах беларускай класічнай паэзіі. Своеасабліва праявілася яна ў разгледжанай намі страфе Коласавай паэмы. Міфапаэтычнае ўспрыманне свету ў яго пастаяннай паўтаральнасці прадстае тут у пераўтвораным выглядзе, у спалучанасці з суб'ектыўна-асабовым стаўленнем да праблемы ўзаемаадносін чалавека і свету. Міфапаэтычная мадэль свету сумяшчаецца тут з іншай, у аснову якой пакладзена ідэя пра пастаянны рух, дыялектычную зменлівасць і пераўтваральнасць праяў быцця. «*Назад не прыйдзе хваля тая, / Што з быстрай рэчкай уплывае*», — так, у суладнасці з народным экзістэнцыяльным досведам, выпрацаваным вякамі, і паўтараючы, па сутнасці, вядомую максіму Геракліта, выказваецца аўтар.

Узаемазвязаныя матывы *роднага кута* і *вясны жыцця* апавядальніка, якімі пачынаецца першы раздзел паэмы, паўтараюцца пры яго заканчэнні, утвараючы тым самым кальцавую кампазіцыю. Абазначанае ў пачатку жаданне вярнуцца да вясны свайго жыцця ўспрымаецца затым як неажыццяўляльная мара. Тут, у канцы раздзела, зноў робіцца акцэнт на немагчымасці для чалавека пераадолець прыродныя межы, вярнуцца назад, да сваіх вытокаў. Гэта магчыма зрабіць толькі ва ўяўленні, што і ажыццяўляе аўтар-апавядальнік у першым раздзеле, як і ва ўсёй паэме, праз падрабязнае ўзнаўленне вобразаў, рэалій, сітуацый праміналай пары.

Такім чынам, мастацкі свет славутай паэмы Я. Коласа, якім захапляюцца, у які ўваходзяць усё новыя пакаленні чытачоў, узнікаў як выяўленне аўтарскіх настрояў і творчых пабуджэнняў, як асэнсаванне агульнанароднага шляху праз асабісты лёс.

**Яўген ГАРАДНІЦКІ**

# Нерушавасць

**Такім сакавітым словам можна коратка ахарактарызаваць напісанае вядомым паэтам Уладзімірам Мазго. Прынамсі, у гэтым пераконвае кніга яго выбраных твораў «У нябёсах вясны». Выпушчаная выдавецтвам «Чатыры чвэрці», яна папоўніла «Бібліятэку Саюза пісьменнікаў Беларусі». У аб'ёмны том увайшло ўсё лепшае, што з'явілася з-пад пяра творцы за сорак гадоў плённай працы ў літаратуры. Яму падуладны розныя жанры. Але ўсё гэта — Паэзія з вялікай літары.**

Да рэспубліканскага чытача У. Мазго ўпершыню прыйшоў у 1976 годзе, калі вучыўся ў Зэльвенскай сярэдняй школе (у раённым друку і дзіцячых выданнях пачаў выступаць чатырма гадамі раней). Амаль адначасова ўпэўнена дэбютаваў на старонках штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» і часопіса «Маладосць». Гэты дэбют засведчыў, што ў літаратуру ўваходзіць яшчэ адзін паэт, шчыры, непасрэдны і, безумоўна, з немалымі задаткамі таленту.

Узяць хоць бы верш «На Бярэжкаўскім возеры», змешчаны тады ў «ЛіМе». Невялікі памерам, але як шмат сказаў у ім паэт, перадаючы сваё замілаванне роднай прыродай, захапленне ёю. Улюбёнасць лірычнага героя лёгка перадаецца кожнаму, хто чытае гэты твор. Нават цяпер, на адлегласці ад яго першай публікацыі. Прыхільнік традыцыйнай паэзіі, У. Мазго ўмее ствараць вобразы, якія ўражваюць сваёй нерушавасцю і запамінаюцца, бо яны адметныя, свежыя. Чаго варты толькі адзін з іх: «…І такая ціша, што травы // Праз падэшвы чуеш прарастанне». Калі б не ведаў, то ніколі б не здагадаўся, што напісана паэтам-пачаткоўцам:

*Воблакі,*
*як белыя буслы,*
*Адлятаюць недзе*
*на змярканні,*
*Толькі адзінока*
*два вяслы*
*Каля чоўна стынуць*
*У чаканні.*

*Хвалі ўсчубіў*
*вецер баравы,*
*Не самохаць, —*
*у смузе расстання.*
*…І такая ціша,*
*што травы*
*Праз падэшвы*
*чуеш прарастанне.*

З ранніх твораў прываблівае і верш «Славянкі». Ён моцны сваёй жыццёвасцю і разам з тым гістарычнай напоўненасцю. Дзень сённяшні і дзень прамінулы, той, што даўно згубіўся ў смузе стагоддзяў, нібы пераклікаюцца. Здавалася б, не такі ўжо значны матэрыял бярэцца за аснову, але гэта акурат тое, што не дае спакою душы паэта, робіць яе відушчай, здатнай разважаць пра вечнае.

*Абудзілі славянкі*
*Сонны бераг Зальвянкі.*
*Верным рыцарам коней*
*Купалі каханкі.*

*Гэтых вояў ля дома,*
*У стаптаны мурог*
*З сёдлаў выбіла стома*
*Стралою дарог.*

У заключнай страфе знітаванасць учарашняга і сённяшняга становіцца яшчэ больш відавочнай: «Глянь: імклівай Зальвянкай, // Хуткай плынню ракі // Выплываюць славянкі // Проста ў нашы вякі…»

Паступова гістарычная праблематыка ў творчасці У. Мазго пачала займаць усё больш значнае месца. Пры гэтым, кідаючы свой позірк на даўнія падзеі, агледаючы ўсю Беларусь, паэт часта засяроджвае ўвагу менавіта на роднай Зэльвеншчыне, таму ў творах (у тым ліку і звязаных з сучаснасцю) згадваюцца Зэльва, рака Зальвянка. З падобных вершаў вылучаецца «Вяртанне вялікага Ганненскага кірмашу», у якім самі стагоддзі выплываюць з нябыту:

*Рэальнасць,*
*Прагнаўшы міраж,*
*На змену сумненням прыходзіць:*
*Вяртаецца ў Зэльву кірмаш*
*З далёкіх мінулых стагоддзяў.*

Даўні кірмаш становіцца сучасным, убірае ў сябе ўсё лепшае, што было калісьці. І адначасова клопатна ўбірае ў сябе сённяшнюю рэальнасць: «Дзябёлы, // Як бульбы капец, // Рахманы, // Як конь зацугляны, // Стаіць разамлелы купец // І строіць багатыя планы». Звярніце ўвагу на вобразы. Наколькі яны насычаныя, наколькі свае. Не ўзятыя ў іншых, а народжаныя багатай творчай фантазіяй паэта. Яны з'явіліся з умення творцы не проста хораша пісаць, а жыць гэтымі вобразамі, праз іх успрымаючы рэчаіснасць, сучасную і мінулую: «Глыбока ўзараўшы пласты // Стагоддзяў, // Там конік з разбегу // У зэльвенскім скверы застыў, // Чакаючы князя Сапегу».

Нельга не адзначыць, што і сам У. Мазго, вобразна кажучы, глыбока арэ пласты стагоддзяў. І не можа не рабіць гэтага, бо, як шчыра прызнаецца ў вершы «Барысаў камень», «вякоў мінулых скон // Збалелым сэрцам // Чую». Дый не толькі чуе сам. Разумее, што такім чуццём павінны валодаць і іншыя, каб не згінуць у бяспамяцтве, не пераўтварыцца ў манкуртаў, якія забыліся пра сваю спадчыну. Для іх паміж сённяшнім і мінулым пралягла непераадольная мяжа.

Інакш да ўсяго ставіцца лірычны герой У. Мазго. Чуючы крокі Антона Паўлавіча Чэхава («Меліхаўская раніца»), ён чуйны і ў іншым. У яго не толькі выдатны слых, але і гэткі ж востры зрок, што і дазваляе праз сучаснасць успрымаць нават будучыню:

*І бачу:*
*Чайка залатая,*
*Абсяг палонячы святлом,*
*Над гладдзю сіняй*
*Узлятае*
*І вечнасць кратае крылом.*

Ды мінулае ўсё адно не адпускае ад сябе. Не толькі даўняе, а куды бліжэйшае, звязанае і з уласнай біяграфіяй. Таму лірычны герой прызнаецца: «У далях блукаю // Сцяжынкаю роснай, // Нібыта шукаю // Мінулыя вёсны. // Далёкія вёсны // І юныя леты // У краі дзівосным // Зялёнай планеты. // Хоць блізіцца восень, // Не гасне затое // Аддаленых вёсен // Святло залатое».

Сімпатычны і верш «Мне зноў на хвілю…». У маленстве У. Мазго некалькі гадоў правёў далёка ад Беларусі. Тады перажытае таксама згадваецца яму. Пацвярджэннем — верш «Мне зноў на хвілю…», у якім мастацкі эфект дасягаецца дзякуючы гукапісу. Лірычны герой прызнаецца ў сваім жаданні: «Мне зноў на хвілю // Прычасціцца // Кедровым водарам тайгі, // І прагным позіркам упіцца // У белакрылыя снягі», і тут жа працягвае:

*У трубку выдыхнуць:*
*— А-лён-ка!..*
*Тайга адклікнецца:*
*— А-лё...*
*Там,*
*Дзе ў залапленых валёнках*
*Маленства бегала маё…*

Акурат гэтае сугучча «А-лён-ка» і «А-лё» і працуе на твор, робячы яго на дзіва арыгінальным. Паэзія У. Мазго — гэта паэзія важкай, часам па-філасофску насычанай думкі, пяшчотнай лірычнасці, глыбокага зместу і — той сонечнай напоўненасці, якая магчымая толькі тады, калі паэт глядзіць на акаляючы свет аптымістычна, светла, захоплена, умее па-сапраўднаму радавацца жыццю і гэтай радасцю падзяліцца са сваімі чытачамі. Неабавязкова гэта робіцца праз




непасрэдны зварот да іх. Часам дастаткова напісаць пра тое, што блізка многім, а магчыма, усім, і твор лёгкай хваляй замілавання кранецца сэрца.

Узяць хоць бы верш «Выпаў снег». Здавалася б, што новае гэтым разам можна сказаць? Аднак У. Мазго здолеў выказацца так, як ніхто. У творы прываблівае тая ж самая нерушавасць — светаўспрымання, пачуццяў, замілавання прыродай, а разам з тым і ўсёй Бацькаўшчынай:

*Так нечакана выпаў снег*
*На вёскі,*
*гарады…*
*Яго захопніцкі набег,*
*Нібы набег арды.*

*Зямля патрапіла*
*ў палон*
*Халоднай белізны*
*Цяпер ужо*
*да лепшых дзён*
*Далёкае вясны.*

*Завеяй здзейснены*
*прымус*
*Дамогся аднаго:*
*Бялейшай*
*стала Беларусь*
*Ад белізны*
*снягоў.*

У кнізе змешчаны і вершы У. Мазго, пакладзеныя на музыку многімі беларускімі кампазітарамі. Песні гучалі на рэспубліканскіх і міжнародных фестывалях у выкананні шмат якіх знакамітых спевакоў. Яшчэ адно сведчанне таго, наколькі паэзія творцы мілагучная, а лепшыя вершы, па сутнасці, самі «просяцца» стаць песнямі. Кніга «У нябёсах вясны» дапаможа тым, хто забыў словы пэўнай песні, успомніць іх, а потым і заспяваць за бясёдным сталом ці проста так, з добрага настрою. Песні Уладзіміра Мазго на розны густ: «Вечарынка», «Бацькоўская хата», «Мелодыя душы», «Дачнікі», «Каляда», «Свята вачэй»…

Плённа працуе аўтар і ў галіне дзіцячай літаратуры, што засведчылі кнігі «Калі спрачаюцца маланкі», «Суседзі на сусвеце», «Смехапад», «Прыгоды марахода», «Цуда-вуда», «Таямнічая планета», «Лепшыя сябры», «Загадкавая азбука», а на падыходзе новыя — «Адвечныя скарбы Радзімы» і «Завітала ў госці казка». Лепшае з гэтых кніг прадстаўлена ў раздзеле «Творы для дзяцей». У паэзіі на дзіва ўдалыя вобразы і параўнанні. Радкі лёгка запамінаюцца, бо паэт, хоць і дае волю сваёй мастакоўскай фантазіі, усё ж ідзе ад самога жыцця.

Яго героі — дзеці, вясковыя хлопчыкі і дзяўчынкі. А дзе маленства — там лёгка жывецца і дыхаецца, ці не на кожным кроку — здзіўленне, нават у самых звычайных рэаліях. Дастаткова крыху пафантазіраваць — і...: «Кошка Мальта // Робіць сальта // І стаіць на галаве» («Кошка Мальта»), «Крот // Сабраўся на курорт: // Хату, // Мэблю, // Агарод // І падземны // Свой гараж // Прапануе // На кірмаш» («Аў-кцы-ён»), «Вось пацеха, // Дык пацеха: // Развязаўся мех // Са смехам, // І па вуліцы // Пабег // Незвычайны гучны // Смех» («Смехапад»)...

Які дасканалы ў мастацкіх адносінах верш «Шадар-Падар», што пакладзены на музыку Зміцерам Яўтуховічам! Гэта ж трэба ўмець так непаўторна, па-свойму, сказаць пра таго, каго знойдзем, бадай, у кнігах кожнага пісьменніка, які піша для дзяцей:

*Шадар-Падар!*
*Гэта словы —*
*Невядомае нам мовы —*
*Сталі для ката Максіма*
*Артыстычным псеўданімам.*

Адпаведна выглядае і сам Кот. Адпаведна паводзіць сябе, бо, як ні паглядзі, з якога боку ні падыдзі, ён вылучаецца сярод сваіх суродзічаў:

*Шадар-Падар — шэры кот,*
*Тоўсты,*
*Нібы бегемот.*
*Носіць вусы —*
*Да вушэй,*
*Ды не ловіць ён мышэй.*

А якая насычаная вобразнасць у вершы «Вавёркі лушчаць зоркі»! І гэта пры мінімальным выкарыстанні вобразнавыяўленчых сродкаў. Тым не менш твор гучыць, бо ёсць у ім тое, што не паддаецца ніякаму вытлумачэнню. Гэта сведчанне таленту, а талент заўсёды ў чымсьці таямніца. Таму і выклікае такую асалоду знаёмства з вершам:

*Як арэшкі,*
*Лушчаць зоркі*
*У вяршалінах*
*Вавёркі.*

*Цэлы вечар*
*Па-над пушчай —*
*Лушчаць,*
*Лушчаць,*
*Лушчаць,*
*Лушчаць...*

*Можа,*
*З вас хто*
*Акурат*
*Бачыў гэтых*
*Зарапад?..*

Шмат радасці прыносяць дзецям і казкі У. Мазго. Гэта і «Лясная аптэка», і «Сябрабуд», і «Цуда-вуда», і «Папугаю сніцца гай». А яшчэ — «Прыгоды марахода». Зноў пра героя, так добра знаёмага хлопчыкам і дзяўчынкам. Толькі тое, пра што расказваецца ў гэтай казцы, пазначана навізной: «Плыў па моры // Кот Васіль, // Плыў бясконца // Сотні міль. // І нідзе // Не сеў на мель // У тумане // Карабель. Бо здавён // Быў гэты кот — // Лепшы ў свеце // Мараход». У якія толькі варункі ні трапляе кот Васіль, але ў любой сітуацыі ён паводзіць сябе годна. Казка і пазнавальная, і павучальная. Калі ж параўноўваць яе з тым, што створана ў нацыянальнай дзіцячай літаратуры апошнім часам, дык, безумоўна, яна адна з лепшых.

Ужо «Прыгод марахода» дастаткова, каб аднесці У. Мазго да найбольш таленавітых сучасных беларускіх аўтараў, якія пішуць для дзяцей. Як і варта прачытаць усяго адну-дзве эпіграмы, жартоўны верш, каб упэўніцца, што і гумарыст ён цікавы.

Дасягнуўшы сталага ўзросту, У. Мазго па-ранейшаму застаўся маладым душой, сэрцам. Яго творчае крэда (дый жыццёвае таксама), бадай, у гэтых радках з трэцяй яго кнігі — «Марафон»: «Прачнуцца — // І здзівіцца дню, // І сонейку здзівіцца, // Нібы вось так // Упершыню // Нанова нарадзіцца». Не перастаючы здзіўляцца, ён дае такую магчымасць і сваім чытачам, нагадваючы, што паэзія — гэта заўсёды здзіўленне. Сапраўдная ж паэзія яшчэ і нерушавая ў сваёй сутнасці, у чым лішні раз пераконвае кніга выбраных твораў Уладзіміра Мазго «У нябёсах вясны».

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Фота Кастуся Дробава





**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

## Адзінае

*(паэма)*

**«Мне сняцца сны аб Беларусі…»**

**Янка Купала**

**Пралог**

*Каб пачынаць з чысцюткага ліста,*
*Я б паўтарыў яшчэ не раз вандроўку*
*У велічны загадкавы Кітай,*
*Які праз далеч ажывае зноўку.*

*Нібы на стужцы, нагадае мне*
*Пра час нядаўні зноў карціна тая,*
*Як я стаю з сябрамі на Сцяне**
*І ўголас Багдановіча чытаю.*

*Як уздымаўся ўвысь фунікулёр*
*Да неба, да аблокаў і вяршыняў,*
*І быў палёт да гор, нібы да зор,*
*Што пахаваліся ў нябёсах сініх.*

*І бачылася, што, куды ні глянь,*
*Прастора ўся напоўнена вякамі*
*І веліччу, нібы гара Тайшань,*
*Якая паўставала перад намі.*

*І плыў над храмамі салодкі дым,*
*І да яго працягвалі мы рукі.*
*Здаецца, ні стагоддзі, ні гады*
*Спакой такі не здолелі парушыць.*

*Былі мы на радзіме мысляроў,*
*Настаўнікаў, асветнікаў, паэтаў,*
*Пісьмёнаў даўніх і таемных слоў.*
*Я лёсу зноў падзякую за гэта*

*І буду я яшчэ не раз казаць,*
*Што толькі так сусвет спазнаць*
*магчыма,*
*Каб у кутках далёкіх пабываць*
*І ўбачыць зноў Радзіму прад вачыма.*

***

*Якая над Шанхаем ноч плыве*
*І зоркі зіхацяць над хмарачосам!..*
*І цеплаход, і ветлыя матросы —*
*Такім Шанхай у згадках ажыве.*

*І я тады, на тым краі зямлі,*
*Маленькаю пясчынкаю сусвету*
*Адчуў усю бяскрайнюю планету*
*І сіл, раней не зведаных, прыліў.*

*Бо там і Мінск, і родны Полацк мой.*
*Якія так далёка ад Шанхая.*
*А паміж імі — я, як ніць жывая,*
*Уплеценая ў вечнасці сувой.*

*Гатэльны нумар, нібы той каўчэг,*
*Ляцеў праз ноч, спякотны душны*
*морак,*
*Да вечнасці, да тых шанхайскіх зорак.*
*І быў яго імклівы лёт і бег.*

*Ды голас мне нашэптваў: «Пачакай.*
*Вось толькі ў небе месяц заіскрыцца,*
*Табе Радзіма любая прысніцца*
*І прыплыве праз сон табе ў Шанхай».*

**Сон першы**

*Над цэркаўкаю промень залаты,*
*Нібы з нябёсаў таямнічых посах,*
*І Полацк, што падораны мне лёсам,*
*Не страціў сваю веліч праз гады.*

*А ў келлі адзінокай цішыня*
*І толькі дух нябачнай Ефрасінні.*
*Чакае ранак зноў у высях сініх*
*Пачатак новы маладога дня.*

*І Лік святы на мроіве муроў*
*Вярнуўся ў храм праз сівізну стагоддзяў,*
*Каб памяццю застацца у народзе,*
*Каб светлым промнем засвяціцца зноў.*

*Бо фрэскам тым непадуладны час.*
*А як іх замалёўвалі вякамі!..*
*Ды зрушыўся вякоў замшэлы камень,*
*І вось яны ізноў прыйшлі да нас.*

*І я так верыў, полацкі хлапчук,*
*Што слава майго горада аднойчы*
*Адкрые родным палачанам вочы,*
*Каб годнасць на зямлі сваёй адчуць.*

*Прадслава, сёння бачыў я праз сон,*
*Як ты ступаеш басанож па полі*
*Да вечнасці, да еднасці, да волі,*
*Праз тлум вірлівых і панылых дзён.*

*Каб Еўфрасінняю прыйсці да нас,*
*Нібыта светлым праменем іскрыстым*
*І словам мудрым, як крыніца, чыстым,*
*Нас блаславляць зноў праз вякі і час.*

*А потым бацька сніўся малады,*
*І думалася: ён, бадай, не знае,*
*Што сёння яго бачыў у Шанхаі,*
*Як крочыў ён праз мройны светлы дым.*

**Сон другі**

*Мае малыя, Оля і Максім,*
*На возеры са мной у лодцы цеснай*
*Смяюцца і спяваюць звонка песні,*
*І я старанна падпяваю ім.*

*І я яшчэ не ведаю, што тут*
*Дачушка у Шанхаі будзе побач,*
*А з сынам буду дома, ў Мінску, поруч*
*Пісаць артыкулы пра родны кут.*

*Сцякаюць кроплі буйныя з вясла,*
*Сінее лес на беразе далёкім,*
*І столькі сонца, возера, аблокі*
*Нам дораць і спагады, і цяпла…*

**Сон трэці**

*Над Прагаю буяе лістапад,*
*У золаце дамы,*
*бульвары, храмы.*
*І казачныя рыцары і дамы*
*Ідуць паважна ў каралеўскі сад.*

*І мой зямляк у мантыі сваёй,*
*Якога называюць тут Францыскам,*
*Што выправіўся з дому ў шлях нябліскі,*
*Каб тут адвечны свой знайсці спакой.*

*Ад Полацка яго пачаўся шлях.*
*Яго, свой горад, ён навек уславіў.*
*І помнік нашай мудрасці паставіў*
*У друкаваных вылітых радках.*

*Ён на чужыне, як і я, праз ноч*
*Імкнуўся да Дзвіны, да ранкаў росных,*
*Да вечароў, празрыстых і марозных,*
*Да светлых мрояў і прыгожых сноў.*

*Як пчолы вуллі памятаюць, так,*
*Як птушкі гнёзды родныя, святыя,*
*Ён нёс сваёй зямлі радзімай знак,*
*Па ёй заўжды праносіў настальгію.*

**Сон чацвёрты**

*Ля Брацкай школы я хадзіў не раз*
*І там пад ціхі пошум думных кронаў*
*Узгадваў пра манаха Сімяона,*
*Пра яго вучняў, пра суровы час.*

*Калі яго паклікала ў Маскву*
*Паэзіі высокае служэнне*
*І рыфмаў разнаітае мігценне,*
*Што назаўжды ўскружыла галаву.*

*І там, у клетцы залатой, калі*
*Сярод палат раскошных і харомаў*
*Імкнуўся ён у думках пакрыёма*
*Да полацкай адвечнае зямлі.*

*Бо Полацкім назваўся назаўжды,*
*Пакінуўшы ў гісторыі найменне*
*Высокае, як дух і як знаменне,*
*Нам, каб яно свяціла ўсім заўжды.*

**Сон пяты**

*На светлым лузе над Дняпром сівым*
*Ідзеш, бялявы, ўсмешлівы, прыгожы.*
*Гаворыш мне пра «ЛіМ».*
*Пра лёс, пра «Вожык».*
*Пра ўсё, калі ты быў яшчэ жывым.*

*Цябе каторы раз прысніў я зноў.*
*І кожны раз, калі ідзеш праз лета,*
*Праз луг, які завецца Пісьмянкоў,*
*Куды збіраюць кожны год паэтаў.*

*І ціснецца салёная сляза,*
*І даўні твой радок перафразую:*
*«Алесь, табе не хочацца назад?»*
*І ведаю: адказу не пачую.*

**Замест эпілога**

*Так у шанхайскай ночы я прысніў*
*Усё, што жывіць мроі і памкненні.*
*І ў гэтым дзіўным летуценным сненні*
*Сваёй Радзімай дарагой я жыў.*

*Так шмат цудоўных месцаў ёсць вакол.*
*Але чаму свае шукаюць вочы?*
*Чаму ізноў прачнуся сярод ночы,*
*Убачыўшы світанне над ракой?..*

*І цэркаўкі маленькай сілуэт,*
*І саду красавіцкія пялёсткі,*
*І Беларусі гарады і вёскі —*
*Адзіны назаўжды Айчыны свет.*

*Яна — маё натхненне і выток.*
*Яна — мая нявеста і каханка.*
*Пяшчотная, як маці калыханка,*
*Нібы гаючае вады глыток.*

*Я не стамлюся пра яе спяваць!*
*І хай ўвальецца гэты сціплы голас,*
*Нібы зярнятка ў поўны спелы колас.*
*І большага не стану я жадаць.*

*Вялікая Кітайская сцяна — унікальны помнік гісторыі і архітэктуры сусветнага значэння.



**Тацяна ПРЫШЧЭПАВА**

* * *

*О, вёска Зарубы, дзе дом, аканіцы*
*І кветкавы водар вясной,*
*Дзе рэчка у лузе, у полі пшаніца —*
*У сэрцы заўжды вы са мной.*

*Дзе б я ні была — у сваім, чужым краі —*
*А перад вачыма адно:*
*Дубочкі, бярозы, блакітныя далі...*
*У іх улюбёна даўно.*

*Усім сваім сэрцам, усёю душою*
*Я з першых дзіцячых гадоў*
*Так вас палюбіла, і думкай сваёю*
*Да вас я вяртаюся зноў.*

*Радзімай малою я вас называю*
*Так шчыра, адкрыта, услых...*
*Лясы і пагорачкі роднага краю!*
*Як глянеш — заходзіцца дых.*

*Тут сіняе возера, нібы люстэрка,*
*І кветкі, што ў полі цвітуць,*
*І клён пры дарозе, і кожная елка*
*Мне мілыя песні пяюць.*

*Пра што тыя песні — і думаць не трэба,*
*На памяць іх ведаю ўсе:*
*Пра родную хату, пра чыстае неба,*
*Духмяныя травы ў расе...*

* * *

*Зіхоткай усмешкай*
*зямлю асвятляеш,*
*Пяшчотаю поўны твой хорам душы.*
*У думках,*
*як зорка на небе, лунаеш,*
*І з радасцю чыстай стаіш на даждж\ы.*

*Вясёлкаю свецішся ярка празрыстай,*
*Гаючай крынічнай вадою з нябёс.*
*Ты дорыш свой позірк,*
*ласкавы і чысты,*
*Так смела ствараеш свой казачны лёс.*

*Жыццёвы запал*
*б’ецца ў сэрцы утульным,*
*Ружовасць на шчоках, бы квет, расцвіла.*
*Дык хай грае кроў твая весела, бурна,*
*Бо ты — подых радасці, подых святла.*

* * *

*Плыве па небе паўнаваты месяц*
*Між ззяння зорак ціхае начы.*
*Нясе з сабой*
*матывы дзіўных песень —*
*Ад іх ужо нікуды не ўцячы.*

*Такой парою доўга мне не спіцца,*
*Хоць ногі ад абцасаў загулі.*
*Святое шчасце —*
*зноўку з лірай зліцца, —*
*Відаць, паслаў мне Божа на зямлі.*

* * *

*Зарослай сцяжынай у полі*
*Іду, затаіўшы слязу.*
*Хачу толькі добрае долі —*
*Да сонца прашэнне нясу.*

*Не трэба мне золата, грошай,*
*Бо хопіць прастору нябёс,*
*Вясёлкі ў аблоках прыгожай,*
*Што дождж у далонях прынёс.*

*Прашу, бо прасіць — то ж не украсці,*
*А што людзям трэба ў жыцці:*
*Надзеі на Бога і шчасце*
*Ды сцежкаю поле прайсці.*

* * *

*Усмешка —*
*хопіць роздумаў надоўга*
*маім нясмелым*
*пра каханне вершам.*
*Усмешка…*
*Не віню цяпер нікога,*
*што не маім навек ты станеш першым.*



## Павел САКОВІЧ

# Як мышка ратавала кацяня

## *З казачных дачных гісторый*

Адбылося гэта позняй восенню на дачы. У той дзень гаспадыня якраз сабралася вяртацца на зіму ў горад. Раптам на верандзе замяўкала мілае, прыгожае кацяня. Яму было каля пяці месяцаў. Але гаспадыня не здзівілася. На дачах нярэдка можна ўбачыць кінутых, забытых котак, у якіх праз нейкі час з'яўляюцца кацяняты. Улетку з імі ахвотна гуляюць дзеці і ўнукі дачнікаў. Некаторыя так прывыкаюць да сваіх пушыстых гадаванцаў, што забіраюць іх з сабой у горад. Але часта кацянят, звычайна найбольш баязлівыя, дзікія, застаецца на лецішчах. Лёс іх непрадказальны. Выжываць на кінутых дачах цяжка. Здагадацца, «вылічыць», дзе могуць гізаваць мышы ці пацукі, няпроста. Гэта ведаюць дарослыя нічыйныя коткі, якія жывуць тут не адзін год. Але яны пакідаюць сваіх кацянят даволі рана і пачынаюць жыць асобна.

Вось і гэтае кацяня вандруе па дачных участках, ловячы растлусцелых мышэй, шукаючы сваю маці альбо выпадковых у познюю восень людзей. Яно паднялося па прыступках і ўселася на верандзе. Гаспадыня заўважыла кацяня.

— Ну, адкуль ты ўзялося? — роспачна спытала яна і знікла ў доме, каб знайсці для госця ежу. Гаспадыня аддала яму лепшае з прыпасаў, бо ўсё роўна яна едзе дамоў. Кацяня наелася і ўдзячна замуркала. Тым часам пачало змяркацца. Жаласліва пазіраючы на жывы пушысты камячок, гаспадыня прыгаворвала:

— Прабач, не магу я цябе ўзяць з сабой. Ёсць у нас ужо кот і сабака. Пашукай сваю мамку, яна табе дапаможа. А яшчэ тут два дачнікі на зіму застаюцца. Падыходзь да іх — не прагоняць, ад голаду не дадуць памерці. Ды і я прыязджаць буду.

Кацяня слухала жанчыну, і яе лагодны спачувальны голас усё больш яму падабаўся. Яно забілася ў куточак, але прыслухоўвалася да валтузні ў доме. На двары тым часам прыкметна сцямнела. Калі жанчына нарэшце сабрала сумку і адчыніла дзверы, кацяня раптам шмыгнула ў шчыліну і забегла ў хату. Яму ўжо даводзілася трапляць такім чынам у дачныя будынкі, дый дзеці не раз заносілі яго ў свае хаты, каб пагуляць. Праўда, потым яно ўсё роўна апыналася на вуліцы… А можа, цяпер пашанцуе, і яно крыху пабудзе ў цяпле? Адкуль яму было ведаць, што гаспадыня з'язджала надоўга? Жанчына замкнула дзверы і, спяшаючыся, пакрочыла да чыгункі…

Кацяня засталося ў хаце. Спачатку яму было вельмі добра. Цёпла, утульна, ніякай пагрозы ад бадзяжных сабак, надакучлівых, нахабных варон. Праз некалькі гадзін, адаспаўшыся на канапе, кацяня захацела піць, а заадно і што-небудзь паесці. Піццё знайшлося даволі хутка. Пад кухонным столікам ля пліты стаяла каструля. Гаспадыня, відаць, памыла посуд пасля абеду, а ваду выліць забылася… Папіўшы, кацянё павольна абышло, абгледзела ўсе пакойчыкі дома і вярнулася да канапы. Яна стаяла каля акна і недалёка ад уваходных дзвярэй. Адсюль было добра чуваць усё, што робіцца на верандзе, а скокнуўшы на падаконнік, можна было ўбачыць двор. Кацяня залезла на канапу і зноў заснула. Калі ў акно зазірнула сонца, коцік адчуў смагу. Ён зноў папіў з каструлі і… захацеў «пі-пі». А каты, каб вы ведалі, вельмі акуратныя істоты. Ці заўважалі вы, як яны падоўгу і заўзята, нават апантана, мыюцца? Сапраўдныя чысцёхі, інакш не скажаш. Вось толькі ў адрозненне ад людзей мыюцца яны не да сняданку ці абеду, а пасля яды. Чаму? Раскажу як-небудзь потым…

Наш коцік пачаў нервова кружыць па хаце, шукаючы адпаведнае месца. Вы думаеце, ён прысеў бы на дыван, што ляжаў сярод пакоя, ці на прыгожы тканы ходнік? Ні ў якім разе! Ён сам раптам заўважыў шырокі гліняны гаршчок з зямлёй, у якім, відаць, гаспадыня садзіла летнія кветкі. Так вырашылася праблема кацінага туалета…

Неўзабаве кацяня захацела есці. Скрозь сон яно нібыта чула папіскванне мышы, але дзе тут, у хаце, яе шукаць? Коцік вырашыў заняцца гэтым крыху пазней, а цяпер ён скокнуў спачатку на крэсла, затым — на стол, ад якога сыходзілі смачныя пахі. Гэта быў звычайны абедзенны стол. На ім у талерцы засталіся рэшткі сухарыкаў і пячэння. Схрумстаўшы некалькі асушкаў, коцік скруціўся кольцам на канапе. І тут зноў пачулася мышынае папіскванне. Коцік затаіўся і падумаў: «Добра, каб яна прыйшла сюды падабраць крошкі каля стала. Вось тут бы я і цапнуў яе…» Ён нават соладка пазяхнуў ад гэтай прыемнай думкі. У напружаным чаканні прайшло некалькі хвілін, але мышка не хацела прыходзіць у госці. Наадварот, коціку здалося, што сваім папіскваннем яна кліча яго да сябе.

Коцік не вытрымаў і адправіўся на паляванне. Ён абышоў і абнюхаў усе куточкі, затым пачаў шукаць дзіркі, шчыліны ў падлозе. Праз іх звычайна і вылазяць аднекуль знізу гэтыя вёрткія істоты. Коцік быў хоць і малы яшчэ, але пра мышак ведаў амаль усё, што яму трэба. Ён ведаў гэта ад самага нараджэння, ад прыроды і, канечне, ад коткі-маці. Праўда, яна паспела навучыць яго толькі асновам палявання, бо на двары была позняя восень, рэзка пахаладала, і мышкі, нават палёўкі, пачалі шукаць сабе прытулак каля чалавека. Котка-маці пакінула сваіх коцікаў, і кожны з іх пачаў жыць паасобку, але на адной і той жа дачнай тэрыторыі. Яны сустракаліся даволі часта. Котка адразу пазнавала сваё кацяня. Яно церлася аб маці, а яна аблізвала яго і аддавала яму пачастунак, калі ён у яе быў…

Здаецца, матчына навука дапамагла яму і цяпер. Ён адшукаў-такі шчыліну-норку, праз якую мышка трапляла ў пакой. Коцік адразу ўлавіў яе пах. Толькі што гэта? Яго перасільваў нейкі іншы, таксама прывабны, хоць і незнаёмы пах. І тут побач з мышынай норкай коцік убачыў нейкае прыстасаванне. То была звычайная дошчачка з драцяной прыладай, а на ёй ляжаў кавалачак сыру. Кацяня пазнала нарэшце, што гэта: нехта з дачнікаў ужо частаваў яго сырам. Раздумваць не было як. Дзе тая мышка і паспрабуй яшчэ злавіць яе, а тут во, побач, ляжыць гатовая вячэра. Аблізнуўшыся, ён падсеў бліжэй да сыру і працягнуў лапку. У гэты момант праз шчыліну аднекуль знізу данёсся рэзкі і трывожны мышыны піск. Коцік аж здрыгануўся ад нечаканасці. «А-а, — зларадна падумаў ён, — шкадуеш, што не паспела адшукаць сыр раней за мяне! Няхай пашукае што-небудзь іншае, пакуль я сам не знайшоў яе…»

І коцік працягнуў лапку, каб узяць сыр. У той жа момант нешта шчоўкнула, ударыла па лапцы і прыціснула яе да дошкі. Коцік паспрабаваў вызваліць яе, але гэта не ўдалося ні з першага, ні з другога, ні з трэцяга разу. Ён так спалохаўся, што спачатку нават не адчуў болю. Што гэта за прыстасаванне? Можа, гаспадыня паставіла яго для аховы сыру? Адкуль яму было ведаць, што гэта звычайная мышалоўка і сыр быў пакінуты зусім не для яго. Ад частага шоргання лапка пачала балець. Коцік панурыў галаву і жаласліва замяўкаў. Ягонае «мяў-мяў» было вельмі падобна на «ма-ма». Так, ён клікаў сваю котку-маці, але дзе яна, ці пачуе яго і як забярэцца ў хату? І тут засмучанае кацяня спачатку пачула знаёмае папіскванне, а потым у шчыліне паказалася вострая мордачка. Мышка пакруціла ва ўсе бакі галоўкай, нібы ацэньваючы абстаноўку, потым вылезла на падлогу і села амаль побач з коцікам. Яму варта было толькі працягнуць лапку, каб зачапіць яе кіпцюрамі, але ён быў бездапаможны. Мышка ўважліва агледзела заціснутую лапку, нешта спачувальна піскнула і скрушна паківала галоўкай. Коцік адчуў яе шчырую заклапочанасць і яшчэ раз жаласліва мяўкнуў. Аднак што можа зрабіць для яго выратавання гэта незвычайна добрая і смелая мышка?

А мышка, напэўна, нешта прыдумала. Яна спрытна абматала кончыкам хваста канец дроту, які быў прымацаваны да спружыны і прыціснуў коціку лапку, а потым напялася, выцягнулася і ўчапілася лапкамі, зубкамі за край той шчыліны, з якой толькі што вылезла. На жаль, як ні напружвала мышка ўсё сваё цела, свой гнуткі і пругкі хвосцік, спружына не паддавалася. Коцік пакуль што нічога не разумеў, але сачыў за мышкай з вялікай надзеяй. Відаць, яна хоча неяк дапамагчы! Ашаломленае кацяня раптам адчула паслабленне ціску і паспрабавала выхапіць лапку з пасткі, але дарэмна: адной мышынай сілы было мала. Нарэшце ў кацяняці з'явілася сапраўды выратавальная думка: «Трэба мышцы дапамагчы!» Дастаткова было свабоднай лапкай учапіцца за канец дроту і разам з мышкай крышку адцягнуць пастку. Коцік так і зрабіў і… вызваліў нарэшце лапку!

Мышка-вынаходніца радавалася не менш за ката. Яна весела папіскавала і кружылася вакол яго, але наблізіцца баялася. А што, як ён возьме ды і пусціць у ход сваю вызваленую лапку? Ды не, кацiная ўдзячнасць перамагла-такі! Кацяня нешта лагодна прамуркала і, крыху накульгваючы, пасунулася да канапы, каб адпачыць пасля непрыемнай падзеі. Калі яно, скруціўшыся клубочкам, заснула, мышка падышла да пасткі і спакойна пачала адкусваць кавалачкі прынады. Сыр яшчэ не паспеў засохнуць, лёгка паддаваўся зубкам і меў вельмі апетытны пах. Мышка магла б адразу з'есці ўвесь сыр, але яна помніла пра згаладалага сябра і пакінула добры скрыль спачатку ля пасткі, а потым перанесла яго бліжэй да канапы. Яна падумала, што коціку цяжка хадзіць, а ежа будзе ляжаць якраз побач.

Коцік хутка папраўляўся, а клапатлівая мышка пакідала яму нешта са знойдзеных там-сям прыпасаў. Ён прывык да паслуг мышкі і часам разважаў так: «А што, яна і павінна быць мне ўдзячнай за тое, што не чапаю яе. Я даўно мог бы з'есці мышку, так што няхай стараецца…» Коцік, аднак, гнаў прэч гэтыя думкі, асабліва, калі яму вельмі хацелася есці. Гнаў нават не сам ён, а яго сумленне. «Ты не забыў, — нагадвала яно, — хто цябе ўратаваў ад пасткі і не дае памерці ад смагі і голаду?» — «І сапраўды, — разважаў коцік, — ну, з'еў бы я яе, а далей што? Зноў жа, памёр бы з голаду…»

«Ты падумай, — не давала спакою сумленне, — мышка магла схавацца, не выйсці да цябе, калі ты трапіў у пастку, а яна ж не пабаялася, выйшла. Пашкадавала цябе. І не з'ядае ўсё, што знаходзіць, а з табою дзеліцца. Дык хто яна табе?» І коцік сам сабе міжволі адказваў: «Сапраўдны сябар».

Невядома, чым бы ўсё скончылася для коціка і мышкі, але праз два тыдні раптам вярнулася гаспадыня: паглядзець, як тут дачная гаспадарка. Адчыніла яна дзверы і адразу ўбачыла схуднелага ката.

— А божухна мой! — пляснула яна далонямі. — Як жа ты тут апынуўся? Пакуль я, значыць, зачыняла дзверы, ты прашмыгнуў у хату! Як жа ты выжыў без яды, без вады? Аж цэлыя два тыдні! А калі б я затрымалася? Бедненькі ты мой!

Кацяня спачатку падумала, што гаспадыня сварыцца на яго, і хацела выскачыць з хаты, але жанчына зачыніла перад ім дзверы.

— Дурненькі, куды ж ты бяжыш? Давай хоць накармлю цябе ўволю.

Яна хуценька дастала з сумкі і нарэзала каўбасы, сыру, затым выняла курынае крылца і ўсё гэтае багацце паклала на падлогу перад катом. Акурат побач з мышынай норкай.

— На, еш, а з'ясі ўсё — яшчэ дам. Ты ж заслужыў: усіх мышак пералавіў, ці не так?

Упершыню ў сваім сіроцкім жыцці коцік так многа і смачна еў. Але чым больш ён наталяў голад, тым часцей паглядаў на шчыліну ў падлозе і ўзгадваў пра мышку. Яму зрабілася нават сорамна, што сам ён есць такую смакату, а яна, можа, глядзіць на яго праз шчыліну і глытае слінку.

Употай ад жанчыны коцік пачаў то лапкай, то носам запіхваць у шчыліну-норку кавалачкі ежы. «Там мышка знойдзе, падбярэ і з'есць», — радаваўся ён. Калі коцік наеўся, гаспадыня адчыніла дзверы і выпусціла яго на двор. «Ідзі, — сказала яна, — бо сёння ж назад, дадому паеду».

Коцік выйшаў і яшчэ доўга сядзеў каля хаты. Яму было сумна і адзінока. Ён так і не развітаўся з мышкай. Ёй жа нельга было паказацца на вочы жанчыне! Падняла б лямант, яшчэ б і на яго накрычала, чаму не злавіў яе? «А мышка малайчына, — падумаў ён з цеплынёй. — Як яна там? Ці знайшла мае пачастункі? Засталася адна, пад падлогай, у цемры… Ці пабачуся калі-небудзь з ёй? І як мне пазнаць яе? Гэта мы, каты, розныя: белыя, чорныя, рыжыя, пярэстыя, з плямамі на лбе, на баках, на вушах — дзе хочаш. А мышы? Усе адной масці. Толькі тыя, што ў полі жывуць, карычневатага колеру. І мовы ў нас абсалютна розныя: ні я яе не зразумею, ні яна мяне».

Седзячы за вуглом дома, ён чакаў: а раптам мышка выбежыць з якой-небудзь адтуліны ў падмурку? Не выбегла…

Коцік роспачна ўздыхнуў, паглядзеў на хату, паслаў для мышкі сваё самотна-развітальнае «мяў» і пайшоў куды вочы глядзяць. Ён жа быў беспрытульны, бяздомны коцік…

Так і невядома, ці сустрэўся той коцік са сваёю мышкай. Вядома толькі, што ён не раз вяртаўся да гэтай самай дачы. На ягонае «мяў» калі-нікалі выходзіла гаспадыня, а мышка — ніколі. Можа, трапіла ў рэшце рэшт у нейкую хітрую пастку? Хто ведае… Коцік жа спачатку зусім не хацеў паляваць на мышак — абыходзіўся тым, што давалі добрыя людзі. Аднак прайшоў час, і ён аднавіў паляванне. Нічога не зробіш: гэта ж спрадвечны каціны занятак! Толькі зловіць, бывала, кот мышку дзе-небудзь каля хаты і доўга-доўга гуляе з ёй. Асцярожна так, каб не пакалечыць: а што, калі яна — якраз тая самая мышка? Вось ён і дае ёй шанц уцячы. Калі разумная, як тая, першая, то і ўцячэ. І коцік ніколькі не пашкадуе пра гэта.

З таго часу і стала гульня ў «коткі-мышкі» агульным правілам для катоў.

# Дудары ўсіх краін, яднайцеся!

У межах III Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі, які прайшоў у літоўскім Каўнасе, сёлета ўпершыню была арганізавана асобная тэматычная панэль «Дударская традыцыя: вывучэнне і вызначэнне межаў». Падчас пасяджэнняў прагучалі даклады, прысвечаныя розным аспектам даследавання дударскай традыцыі, а непасрэднымі ўдзельнікамі дыскусіі сталі як маладыя даследчыкі, так і прызнаныя этнамузыколагі, навукоўцы сусветнага ўзроўню з Беларусі, Літвы, Польшчы, Аўстрыі, Фінляндыі. Варта пазнаёміць нашых чытачоў з некаторымі ўдзельнікамі і гасцямі гэтай тэматычнай панэлі. Карэспандэнт «ЛіМа» Марына Весялуха задала ім некалькі пытанняў пасля завяршэння Кангрэса.

***Прафесар Венскага ўніверсітэта музыкі і выканаўчага мастацтва Ульрых Моргенштэрн.***


Фота Касандры Балоса-Бардзін

**— Ульрых, чаму вы абралі менавіта дуду ў якасці аб'екта даследавання?**

— Мы спачатку выбіраем, а потым тлумачым, чаму гэта важна. Але мой адказ на гэтае пытанне вельмі просты. Народная музыка мае вялікую эстэтычную каштоўнасць, глыбіню. І калі нехта ўмела іграе на дудзе, валынцы — слухач атрымлівае сапраўднае задавальненне. Мне проста падабаецца гэты інструмент і музыка, якую на ім ігралі і іграюць. Яго гучанне надзвычай багатае. Гэта бачна па гістарычных крыніцах, якіх становіцца ўсё больш і больш.

**— У вас ёсць дуда?**

— Так, у мяне ёсць дуда выдатнага беларускага майстра Дзяніса Сухога. Гэта адзін з першых інструментаў, якія маюць такі ж строй, як і дуда, на якой граў знакаміты Слаўчык. Яго ўдалося ўзнавіць у тым ліку па маіх работах, а ідэю рэканструкцыі ажыццяўляў Дзяніс. Гэта дуда, зробленая па тыпе інструмента, які захоўваецца ў Лепельскім краязнаўчым музеі. Сёння робіцца шмат спроб рэканструяваць інструменты, аднавіць іх гучанне. Натуральна, у гэтай справе можа прысутнічаць фантазія, але калі мы маем на ўвазе гістарычную рэканструкцыю, то перадусім трэба звяртацца да крыніц. Менавіта такім чынам працуюць Дзяніс Сухі і, што мяне асабліва радуе, яго вучань Сяргей Чубрык.

**— Вы з лёгкасцю дзеліцеся сваімі адкрыццямі ці імкняцеся захаваць нешта для сябе?**

— Безумоўна, я хачу дзяліцца. І вельмі рады, што цяпер у інтэрнэце публікуецца вельмі шмат крыніц. Тут варта ставіць пытанне па-іншаму: у якой форме прадстаўляюцца гэтыя здабыткі, ці адпавядае публікацыя навуковым нормам, ці вытрымліваецца навуковая этыка? У Расіі і Беларусі сёння назіраецца дзіўная сітуацыя. У плане публікацыі іканаграфіі інструмента, выяўлення запісаў энтузіясты ідуць далёка наперадзе навукі. І навука, магчыма, ніколі не дагоніць іх. Аднак мне вельмі крыўдна, калі ў інтэрнэце з'яўляецца запіс, але не пазначаюцца імёны тых, хто грае, хто запісаў, апублікаваў. Важна таксама, што ў кірунку вывучэння дуды ў Беларусі працуюць і прафесійныя даследчыкі, і студэнты. Да прыкладу, Вячаслаў Калацэй шмат робіць для арганізацыі навучання ігры на інструменце і даследавання дуды ў Мінску. Я проста захапляюся яго энтузіязмам і прафесіяналізмам. Мяне захапляе прафесіяналізм беларускіх даследчыкаў.

Што да маіх адкрыццяў, матэрыялы я ўжо апублікаваў. Гэта алічбаваныя запісы найгрышаў Слаўчыка, дудара з Гарадоцкага раёна, якія ў 1931 годзе ў Пецярбургу запісваў Яўген Гіпіус. Гэты музыка — ужо амаль кумір дударскага руху, і, спадзяюся, даследчыкі будуць звяртаць увагу і на іншыя яго найгрышы. Пакуль што гэта фанаграмы з вельмі кепскім гукам, але ў будучыні я планую апрацаваць іх з дапамогай спецыяльнай тэхнікі. Увогуле, было б цудоўна выдаць вялікую манаграфію з гукавым дадаткам, дзе можна было б сабраць крыніцы, выяўленыя мною і маімі беларускімі калегамі. Столькі энтузіястаў, столькі навукоўцаў працуюць у гэтым кірунку, таму, думаю, разам можна шмат зрабіць.

**— Вы бываеце ў Беларусі ў экспедыцыях, удзельнічаеце ў навуковых канферэнцыях, што праводзяцца ў нашай краіне. Як звонку выглядае беларускі рух па адраджэнні дуды?**

— Паколькі інструмент ужо вымер у традыцыі, то заўважаецца вялікае імкненне проста сабраць усё, што ёсць. Маюцца розныя меркаванні ў інтэрпрэтацыі крыніц, але гэта нармальная з'ява, у навуцы не ўсе павінны быць згодныя. Важна толькі не ператвараць дыскусію ў «перацягванне коўдры». Гэта датычыць і пытання нацыянальнай прыналежнасці інструмента. Вельмі рэдка бывае, што ён сапраўды нацыянальны, нават пэўны тып дуды вельмі складана прымацаваць да аднаго этнасу. Але сама музычная культура настолькі багатая, што пытанні прыналежнасці проста блякнуць у параўнанні з ёй.

**— Вашы навуковыя інтарэсы сканцэнтраваны на рускай валынцы? Ці правільна так называць гэты інструмент?**

— Вельмі добра, што вы запыталіся наконт правільнай назвы. Я б сказаў, што даследую валынку ў Расіі ці валынку рускіх, бо сёння не існуе пэўнага рускага тыпу гэтага інструмента. Але тое, што ён быў, дакладна вядома па крыніцах. Яны сведчаць пра існаванне валынкі ў рускіх, і не толькі ў Смаленскай і на поўдні Пскоўскай вобласці — па сутнасці, гістарычна беларускіх тэрыторыях. Валынка была распаўсюджана ва ўсёй Еўропе, дык чаму ж не ў Расіі?



Уладзімір Даль згадвае яе як адзін са звычайных інструментаў, і калі ідзе пералік чатырох-пяці народных інструментаў, то валынка амаль заўсёды фігуруе ў гэтым спісе. Яна, магчыма, была прасцей, чым беларуская дуда, у якой можна назіраць больш цэнтральнаеўрапейскіх рыс. Думаецца, валынка бытавала ў Расіі не толькі ў час існавання скамарохаў, але яна дрэнна вывучаная, і не шмат звестак захавалася. Магчыма, новыя крыніцы яшчэ знойдуцца.

**— Вы — удзельнік дударскай панэлі, што прайшла падчас Кангрэсу даследчыкаў Беларусі. Якія ўражанні?**

— Сапраўды значная падзея. Адметна, што мы тут разглядалі дуду, ці, у шырокім сэнсе, валынку, як агульнаеўрапейскі феномен. Гэта вельмі важны момант, бо раней не хапала вывучэння гэтага інструмента ў параўнальным аспекце. Больш за тое, радуе, што сёння глыбока вывучаецца гісторыя, канструкцыя, сацыяльная роля валынкі. Нават пытанні рэпертуару, выканаўчага стылю разглядаюцца намнога сур'ёзней, чым год 20-30 таму. На маю думку, гэта звязана з тым, што ўвесь час выяўляюцца новыя крыніцы, а ў працы ўдзельнічаюць прафесійныя этнамузыколагі і многія музыкі-энтузіясты. У Беларусі і Літве навука па даследаванні гэтага выдатнага інструмента — дуды — зрабіла вялікі крок наперад. Не менш важны і міжнародны ўзровень, на які мадэратар нашай тэматычнай панэлі, даследчык і музыка Яўген Барышнікаў, узняў тэмы даследавання літоўска-беларускай дуды. А такі аспект вельмі важны для абмену вопытам, ведамі, ажыццяўлення параўнальнага падыходу ў вывучэнні гэтага інструмента.

***Арганізатар Міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай валынкам розных тыпаў, выпускніца Сарбоны, этнамузыколаг, магістр мастацтваў, аўтар радыёшоу, прысвечанага валынкам, Касандра Балоса-Бардзін.***



**— Касандра, як узнікла і развівалася ідэя правядзення Міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай розным тыпам валынак?**

— Прыкладна тры гады таму я пераехала ў Лондан, каб пісаць дысертацыю ў Лонданскім універсітэце. Я сустракала людзей з многіх краін, якія ігралі на валынках розных тыпаў. Праз некаторы час і сама стала сябрам Англійскага таварыства валынак. І вось падчас фэсту *Blow out* пазнаёмілася з чалавекам, які прапанаваў арганізаваць Міжнародны дзень валынкі. Але я вырашыла зладзіць канферэнцыю. Паўсюль, дзе давялося быць раней, праходзілі толькі фестывалі. Там ладзіліся канцэрты, праводзіліся майстар-класы, ды і ахоп пытанняў для абмеркавання зацікаўленымі асобамі і прафесіяналамі быў досыць вузкі. Пры арганізацыі такіх падзей у цэнтры ўвагі апынаецца рэгіянальны, нацыянальны аспект, але міжнародны — ніколі. Ідэя ж маёй канферэнцыі была ў тым, каб кожны, хто мае справу з валынкамі ў розных краінах, мог прыехаць і распавесці пра гэта, абмяняцца ідэямі з калегамі.

У выніку летась, калі праходзіла I Міжнародная канферэнцыя, прысвечаная валынцы, усё атрымалася нават лепш, чым я чакала. Было 12 дакладчыкаў, канцэрт, а ўвечары — танцы. Удзельнікамі канферэнцыі былі даследчыкі са Швецыі, Іспаніі, Францыі, Англіі, Партугаліі. Некаторыя казалі, што не верылі ў жыццяздольнасць ідэі, лічылі, што сама задумка ўвогуле вар'яцкая, але, прыехаўшы, пабачылі: гэта — рэальнасць.

**— Як атрымалася, што ты пачала граць на валынцы, а потым у Маёрцы занялася вывучэннем інструмента з антрапалагічнага пункту гледжання?**

— З пяці год я граю на блокфлейце, а ў чатырнаццаць пачала вучыць іспанскую мову. Мае бацькі заўсёды прытрымлівалiся думкі, што мову лепш за ўсё вучыць у краіне, дзе на ёй размаўляюць. Таму і паехала ў Галісію. У доме, дзе жыла мая сяброўка, была старая валынка, якая належала яе дзядулю. Мне стала вельмі цікава, як гучыць гэты інструмент. Паспрабавала на ім граць, і настолькі спадабалася, што пазней на працягу пяці год збірала ўсе свае кішэнныя грошы, каб набыць валынку! Калі мне было 19, я ўжо мела патрэбную суму. Затым зноў паехала ў Галісію і навучылася граць. Ва ўніверсітэце я вывучала музыку, грала на флейце. Але прытрымлівалася думкі, што народную музыку варта вывучаць больш глыбока, таму і абрала этнамузыкалогію ў якасці асноўнага кірунку сваёй даследчыцкай працы.

**— У Беларусі існуе традыцыя, правіла, якое забараняе жанчынам граць на дудзе. Ці сустракала ты нешта падобнае ў іншых краінах?**

— Валынка сапраўды лічыцца мужчынскім інструментам. У Галісіі, да прыкладу, зусім нядаўна адбыліся змены ў традыцыі, і многія жанчыны пачалі граць на валынках. Там нават мужчыны кажуць, што ў жанчын гэта атрымліваецца лепш, бо ў іх рукі больш пяшчотныя, пальцы — рухомыя, не такія грубыя, як у мужчын, якія выконваюць цяжкую працу ў полі. Але ў Маёрцы валынка на сёння толькі мужчынскі інструмент. Нават у Шатландыі вельмі мала жанчын-валыншчыц. Валынка так доўга была «мужчынскай»... Я ж ніколі не кіравалася гэтым стэрэатыпам. Калі ў цябе атрымліваецца, то чаму не? Ці не цяжка мне граць на валынцы? Зусім не. І гэтаму можна навучыцца! Дарэчы, падчас наступнай канферэнцыі, якая пройдзе 8 сакавіка, мы хочам звярнуць асаблівую ўвагу на гендарны аспект справы, адказаць на пытанне, чаму так мала жанчын грае на валынках.

**— За дні працы Кангрэса ты паспрабавала граць на беларускай дудзе?**

— Не, на жаль. Напэўна, павінна была... Раней грала на балгарскай гайдзе і на шведскай сакпіпе. Мне спадабаўся гук беларускай дуды, ён вельмі мяккі. І сам інструмент выглядае прыгожа. Ды яшчэ ў Беларусі не забылiся пра тое, што пад дуду можна спяваць.

**— Ці стала панэль, прысвечаная распаўсюджанню дудаў у Беларусі, Літве, Польшчы, Фінляндыі, адкрыццём чагосьці новага?**

— Падчас пасяджэнняў сапраўды шмат даведалася. Гэта і калядаванне, і абрад валачобніцтва на Вялікдзень. Калі прыехала сюды, то вельмі мала ведала пра беларускую культуру, цяпер — куды больш. Праца, якая робіцца беларускімі музыкамі і даследчыкамі ў кірунку адраджэння дуды, дарагога вартая!

**P. S.** Адметна, што ўжо ёсць папярэдняя дамоўленасць з арганізатарамі пра тое, каб і на наступным Кангрэсе таксама зладзіць асобную даследчыцкую панэль, прысвечаную дудам. Гэта выдатна, бо шмат пытанняў і аспектаў справы яшчэ трэба абмеркаваць.

**Мадэратар панэлі, даследчык і музыка Яўген Барышнікаў:**

*— Фактычна ўпершыню атрымалася вывесці гэтую тэму на такі высокі міжнародны навуковы ўзровень. Важна, што на самім Кангрэсе прадугледжаны дыскусіі на кожным дакладзе, і ў нас яны былі досыць актыўныя. Вельмі прыемна, што ўдзельнічала Іна Дзмітрыеўна Назіна, вядучы беларускі этнамузыколаг, на працы якой так ці інакш спасылаліся амаль усе дакладчыкі. Яна першай напрыканцы 1970-х узняла праблему дудаў у навуковым рэчышчы і зрабіла тытанічную працу па пошуку гістарычных крыніц. Прыемна здзівілі замежныя даследчыкі, паказаўшы сваю адкрытасць, ахвоту да дыскусій і навуковай супрацы. Разам з тым, на вялікі жаль, у рабоце не змаглі ўзяць удзел многія беларускія сур'ёзныя даследчыкі тэмы. Спадзяюся, гэта выпадковасць і надалей сітуацыя будзе складвацца інačай.*

КНІЖНЫ СВЕТ

1 лістапада 2013 г.

Выдавецкія клопаты

# Класіка, навацыі, эксперыменты

«Вышэйшая школа» — адно з самых буйных спецыялізаваных выдавецтваў нашай краіны. Тут штогод выходзіць каля 150 назваў кніг агульным тыражом звыш як 300 тысяч асобнікаў. Сёлета гэтае выдавецтва, неаднаразовы лаўрэат Нацыянальных конкурсаў «Мастацтва кнігі», адзначае 50-гадовы юбілей. Але калі я згадваю гэтую адметную дату, дырэктар «Вышэйшай школы» Аляксандр Нячай зазначае:

— Афіцыйна наша выдавецтва было створана 21 верасня 1963 года, але з 9 мая 1961-га на базе выдавецтва БДУ імя У. Леніна працаваў выдавецкі аддзел пры Міністэрстве агульнай сярэдняй і спецыяльнай адукацыі краіны. Таму можна сказаць, што «Вышэйшая школа» прыйшла на змену менавіта гэтаму аддзелу: ён быў закрыты 23 лістапада 1963 года. Пераходны перыяд, калі яшчэ працавала старое выдавецтва і пачынала сваю дзейнасць новае, расцягнуўся на два месяцы. Таму свой юбілей мы адзначаем менавіта ў гэтым прамежку.

**— 50 год у жыцці любой арганізацыі — важны перыяд, калі можна падвесці пэўныя вынікі...**

— За ўвесь час існавання выдавецтва гэта зрабіць дастаткова складана. Што да апошніх 15-20 год, то істотнай падзеяй стала адкрыццё спецыялізаванай рэдакцыі па падрыхтоўцы і выпуску літаратуры на замежных мовах. Яна пачала сваю працу з сярэдзіны 1990-х і за апошнія гады стварыла фактычна поўныя камплекты нацыянальных падручнікаў па англійскай, нямецкай, французскай, іспанскай, а цяпер і кітайскай мовах.

Значным можна лічыць і пачатак працы з электроннымі дадаткамі, а затым і з электроннымі выданнямі. Была створана ўласная студыя гуказапісу, якая дазволіла забяспечыць вучэбнаметадычныя комплексы па замежных мовах яшчэ і аўдыёматэрыяламі. Мы пачалі выпуск аўдыёкніг. Варта адзначыць і выпуск фундаментальных кніг серыі «Традыцыйная мастацкая культура Беларусі». Апошняе ў гэтым шэрагу выданне, прысвечанае Гомельскаму Палессю, выйшла сёлета. Цягам апошніх год мы актыўна ўдзельнічаем у рэалізацыі дзяржаўнай праграмы па развіцці вышэйшай адукацыі ў Беларусі, і за гэты час выпушчана каля 150 падручнікаў для вышэйшай школы. Над рэалізацыяй праграмы працуем і цяпер: да канца года плануем выданне яшчэ 15 падручнікаў.

**— Калі звярнуць больш пільную ўвагу на падручнікі і параўнаць сучасныя выданні з тымі, што рыхтаваліся ў «Вышэйшай школе» год 20 таму, якія можна заўважыць змены?**

— З аднаго боку, кнігавыданне — класічная галіна, і з пункту гледжання працы выдавецтва тут нічога не змянілася. Затое ў метадыках, падыходах да афармлення, выкарыстання сучасных праграмных прадуктаў, а цяпер і аўдыёматэрыялаў усё змянілася істотна. Цяпер мы выпускаем аўдыёдадаткі да падручнікаў па замежных мовах, аўдыёкнігі, а яны з'яўляюцца навінкай для выдавецкай дзейнасці ў нашай краіне, хоць такія прадукты ўжо даўно выпускаюцца ў замежных выдавецтвах. Варта адзначыць, што мы актыўна працуем над стварэннем камбінаваных выданняў: акрамя самой кнігі тут у дадатку яшчэ і дыск з інфармацыяй рознага кшталту: аўдыё, графічнымі файламі ці кінафрагментамі, якія дазваляюць дапоўніць тэксты. Мы гэты сегмент засвоілі і ўжо досыць прафесійна выкарыстоўваем пры выпуску ўсяго спектра літаратуры. Па сутнасці, цяпер кожная трэцяя кніга выходзіць у нашым выдавецтве з такім восьдадаткам.


Фота Кастуся Дробава

**— «Вышэйшая школа» часта бярэ ўдзел у міжнародных кніжных выстаўках-кірмашах. Як беларускія падручнікі выглядаюць на фоне вучэбных выданняў з іншых краін?**

— Калі весці гаворку пра якасць падрыхтоўкі выданняў, то ўсе нашы замежныя калегі адзначаюць, што за апошнія 10-15 год узровень падрыхтоўкі падручнікаў для сярэдняй школы і прафесійнай адукацыі вырас. У прыватнасці, гэтыя кнігі значна адрозніваюцца ад падручнікаў старога пакалення. Калі ідзе гаворка пра падручнікі для ВНУ, то калегі адзначаюць высокі якасны ўзровень падрыхтоўкі ўсіх матэрыялаў з пункту гледжання афармлення і — што асабліва значна — зместу.

Падчас кніжных кірмашоў нам важна не толькі паказаць сваю прадукцыю, якая выходзіць за апошні час, але і прасачыць за тэндэнцыямі развіцця выдавецкай індустрыі, што часцей за ўсё адбываецца на семінарах, прэзентацыях у Маскве і Франкфурце-на-Майне. Важна таксама наладзіць перамовы аб продажы правоў на нашы выданні. Гэта адзін з кірункаў, які актыўна развіваецца апошнім часам. У прыватнасці, у Расіі ўжо цягам 3-4 гадоў з'яўляюцца новыя электронныя бібліятэчныя сістэмы, якія акумулююць кантэнт для выкарыстання бібліятэкамі ВНУ, каледжаў і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Сёлета на выстаўках і ў Маскве, і ў Франкфурце-на-Майне мы праводзілі перамовы наконт умоў продажу невыключных правоў на выкарыстанне нашых кніг у некалькіх расійскіх бібліятэчных сістэмах. Так, заканчваюцца перамовы і хутка адбудзецца падпісанне кантракта аб перадачы невыключных правоў Расійскаму нацыянальнаму бібліятэчнаму рэсурсу, які рыхтуе кантэнт для вядучых бібліятэк суседняй краіны.

**— Сёння часта вядуцца размовы пра канкурэнцыю кнігі папяровай і электроннай, інфармацыйную канкурэнцыю кніг з інтэрнэтам. І часта звяртаюць увагу на тое, што менавіта вучэбная літаратура хутчэй за ўсё цалкам ператорыцца ў электронную форму, не будзе сэнсу выпускаць яе на паперы. У выпадку неабходнасці вы гатовыя перабудаваць сваю працу толькі на выпуск электронных кніг?**

— Мы ўжо гатовыя гэта зрабіць. Спецыфіка дзейнасці выдавецтва якраз і заключаецца ў тым, каб падрыхтаваць матэрыял, створаны аўтарам, да спажывання грамадствам. Гэта рэдактура і выпраўленне тэксту, адпаведная праца па афармленні малюнкаў, табліц, графікаў, схем. А ўжо далей макет, які рыхтуецца ў выдавецтве, перадаецца ў тыпаграфію і там пераносіцца на паперу. У прынцыпе, без апошняга этапу можна абысціся, і матэрыял ужо на ўзроўні падрыхтаванага макета можна пачынаць распаўсюджваць у інтэрнэце. Сёння падрыхтаваны ў выдавецтве арыгінал-макет называецца электронным выданнем ці, па традыцыі, электроннай кнігай. Аднак, мне падаецца, правільна называць яго ўсё ж такі электронным выданнем. Пад кнігай мы павінны разумець аддрукаваны ці рукапісны асобнік.

Але галоўная праблема з электронным выданнем заключаецца ў шляхах яго распаўсюджання. Цяжкасці ўзнікаюць яшчэ і ў пытаннях існавання нарматыўнай базы для выданняў гэтага тыпу, пытаннях чыста эканамічных: цэнаўтварэнне, аўтарскае ўзнагароджанне. Выдавецтвам невядома, у якой колькасці кніга будзе распаўсюджана. Апроч гэтага, кожнаму з выданняў, якія існуюць у папяровым варыянце, у адпаведнасці з міжнароднай сістэмай класіфікацыі прысвойваецца індывідуальны нумар ISBN. Такой сістэмы ідэнтыфікацыі для кніг, якія не выходзяць на паперы, у нашай краіне не існуе. Тады ўзнікае і праблема пошуку падобных матэрыялаў. Да гэтага спіса варта дадаць пытанне рассылкі абавязковага экзэмпляра, праблему абароны электроннага кантэнту ад нелегальнага распаўсюджвання і шэраг іншых цяжкасцей, якія пакуль не дазваляюць наладзіць выпуск і распаўсюджванне электронных выданняў больш шырока.

Доля рынку электронных выданняў у Беларусі пакуль невялікая, тым не менш гэтыя праблемы нам давядзецца вырашаць. Мы тэхнічна гатовы ажыццявіць пераход на падрыхтоўку толькі электронных выданняў, але непадрыхтаванасць і спажыўца, і нарматыўнай базы пакуль не дазваляюць гэта рабіць. Мы трэніруемся на падрыхтоўцы камбінаваных выданняў, хоць у такой сітуацыі адмовіцца ад папяровага варыянта не так складана. Я думаю, што па нашым сегменце, асабліва ў галіне вучэбнай літаратуры для вышэйшай школы, гэта можа адбыцца ў бліжэйшыя 5-10 год.

**— Калі весці гаворку пра вучэбную літаратуру для школ, ці будзе ў гэтым сегменце пераход на выкарыстанне электронных выданняў такім жа лёгкім і хуткім?**

— Пакуль не магу сабе ўявіць, што гэта нават магчыма ў школе. Асабліва калі гаворка ідзе пра малодшых школьнікаў. Метадычныя рэкамендацыі яшчэ не адпрацаваныя, тэхнічная і эканамічная база не гатовая. Магчыма, будзем рухацца ў гэтым кірунку, але асэнсавана, асцярожна і не спяшаючыся. Калі скароціцца аб'ём выпуску літаратуры для ВНУ, пачнём выдаваць больш кніг для школьнікаў па замежных мовах, якія носяць прыкладны характар. Гэта аўдыёкнігі, метадычныя дапаможнікі, дыдактычныя матэрыялы, кнігі для чытання, карткі, дадатковыя дапаможныя матэрыялы для настаўнікаў. У цэлым тут шмат чаго можна зрабіць.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Хто ён, «польскі Мальер»?

Нагадаем, што сёлета кастрычнік стаў месяцам польскай літаратуры. Раз на тыдзень праходзілі прэзентацыі кніг польскіх аўтараў, перакладзеных на беларускую мову, адкрылася кніжная выстаўка, прысвечаная Юльяну Тувіму, а таксама ў кнігарні па праспекце Незалежнасці, 37А з'явілася адмысловая «польская шафа», дзе можна знайсці не толькі пераклады, але і творы на мове арыгінала, то бок на польскай.

Самай цікавай і відовішчнай сталася прэзентацыя п'ес Аляксандра Фрэдры, выдадзеных у выглядзе зборніка «Помста». У прэзентацыі ўзялі ўдзел акцёры Купалаўскага тэатра: заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Рагаўцоў, Тамара Нікалаева-Апіёнак, Вольга Няфёдава, Павел Астравух, Аляксей Яравенка, Кацярына Алейнікава і Крысціна Казак. У рэпетыцыйнай зале пад акампанемент гурта «Вытокі» акцёры сыгралі ўрыўкі з дзвюх п'ес Аляксандра Фрэдры: «Помста» і «Дзявочыя зарокі». Перакладчыкі камедый Марыя Мартысевіч і Андрэй Хадановіч распавялі пра працу над зборнікам. Натуральна, што самым складаным падчас працы сталася мова герояў. Спадарыня Марыя абрала шлях «мадэрнізацыі» — часам у дыялогах могуць трапляцца нават слэнгавыя слоўцы, папярэдзіла яна, а спадар Андрэй назваў працу над «Помстай» святам для філолага. Прывітальнае слова сказаў таксама пасол Польшчы ў Беларусі Лешак Шарэпка.

Але хто такі Аляксандр Фрэдра? У нас пра яго ведаюць адзінкі, у Польшчы ж п'есы камедыёграфа вывучаюць у школе. Найбольш трапная характарыстыка творцы — «польскі Мальер». Так, у часы росквіту рамантызму, калі панавалі Адам Міцкевіч і кампанія, граф Фрэдра (а ён да ўсяго быў яшчэ і графам) дазволіў сабе іранічнасць. Падумаць толькі! — у п'есе «Дзявочыя зарокі» ён нават спарадзіраваў манеру Міцкевіча і працытаваў радкі з яго «Дзядоў». У выніку драматурга пачалі цкаваць рамантыкі — і давялі да таго, што ён кінуў пісаць. Прынамсі, для тэатраў. Толькі праз дванаццаць гадоў Аляксандр Фрэдра зноў узяўся за пяро, але творы яго заставаліся ў шуфлядзе стала. Дагэтуль у Польшчы існуе меркаванне, што Міцкевіч і Фрэдра былі зацятымі ворагамі і нават не віталіся, сустрэўшы адно аднаго, аднак фактаў, якія б пра гэта сведчылі, няма.

П'есы Аляксандра Фрэдры ставяцца па сёння. Вядомая таксама экранізацыя Анджэя Вайды паводле п'есы «Помста». У Беларусі ж Фрэдра дасюль не перакладаўся, і зборнік «Помста» — першая ластаўка.

Месяц польскай літаратуры скончыўся 30 кастрычніка прэзентацыяй кнігі Марка Эдэльмана і Паўлы Савіцкай «У геце было і каханне». У імпрэзе ўдзельнічалі рэдактар кнігі Інэса Кур'ян, перакладчыкі Вераніка Бандаровіч і Юрась Барысевіч, прадстаўніцы польскага яўрэйскага музея, а таксама аўтар ідыш-беларускага слоўніка Алесь Астравух.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Перакладчык як рэжысёр

Адзін з герояў сатырычнага маналогу Аркадзя Райкіна шмат разоў паўтараў: «Надвор'е было надта кепскае». А гераіня фільма «Службовы раман» яму пярэчыла: «У прыроды няма кепскага надвор'я». Але дакладна вядома адно. Позняя восень — час для апатыі і хандры. Што нас выратуе?

Калі вы часта бываеце ў інтэрнэце, то ведаеце: яго прасторы поўняцца такім штампам, як «гарбата, плед, кніга». Напэўна, гэта адзінае клішэ, з якім я гатова мірыцца. Пагадзіцеся, нішто не дапаможа нам перажыць дажджлівую руціну дзён лепш, чым утульнае цяпло і яркая рэальнасць, якая падпарадкоўваецца толькі нашай фантазіі.

Усе гэтыя думкі з'явіліся ў маёй свядомасці, калі я вярталася дадому з курсаў французскай мовы. І тут з'явіўся новы аспект — перакладная літаратура. Якраз днямі мы з сяброўкай абмяркоўвалі, што ідэальны варыянт пазнаёміцца з творамі замежных пісьменнікаў — прачытаць іх на мове арыгінала. Якім бы высокакваліфікаваным ні быў перакладчык, ён усё роўна выступае ў той жа ролі, што і рэжысёр экранізацыі: усяго толькі ўвасабляе ўласнае бачанне твора.

Добра, калі чытач валодае замежнымі мовамі. Тады яго свет падобны да феерверку. У большасці выпадкаў адна надзея на выдаўца: наколькі ён сам прафесіянальны, каб зразумець і ацаніць усю важнасць місіі. Задача падрыхтаваць добры пераклад амаль раўназначная той, каб знайсці вартага аўтара ў сябе на радзіме.

Цалкам справядліва было б сказаць, што асаблівая любоў савецкіх чытачоў да замежнай літаратуры вывела лепшых перакладчыкаў практычна ў ранг акадэмікаў. Дастаткова прыгадаць Самуіла Маршака, які падарыў рускамоўным чытачам прыгажосць санетаў Уільяма Шэкспіра, песень і балад Роберта Бёрнса, вершаў Уільяма Блэйка, твораў Уільяма Вордсварта, Джона Кітса, Рэдзьярда Кіплінга…

Цяга нашых бацькоў да твораў замежных аўтараў, на мой погляд, заканамерная. Пачаць з таго, што асаблівае месца ў айчынным выдавецкім свеце заўсёды займаў часопіс, прысвечаны перакладам, — «Иностранная литература». Гісторыя гэтага выдання сягае ў 1891 год, калі ў Санкт-Пецярбургу быў заснаваны «Вестник иностранной литературы». Сапраўдны бум выданняў перакладной белетрыстыкі прыйшоўся на гады НЭПу. І на тое ёсць шэраг прычын. Па-першае, шырокі слой інтэлігенцыі апынуўся расколатым. Тыя, хто знайшоў прытулак на Захадзе, выступалі ў ролі першых «літаратурных разведчыкаў», рэкамендуючы лепшыя выданні на радзіме. Іх сваякі і знаёмыя, якія засталіся на радзіме, выступалі ў якасці перакладчыкаў. Пісьменнік і літаратуразнаўца Віктар Шклоўскі нават іранічна адзначаў: «Джэк Лондан, О. Генры, П'ер Бенуа — цяпер (у 1920-я гады — **К. С.**) самыя чытаемыя рускія пісьменнікі». Па-другое, гэты час быў адным з самых складаных у айчыннай гісторыі, і перакладная літаратура, якая поўнілася сцэнамі іншага, прыгожага і невядомага жыцця, была адным са шляхоў уцёкаў ад змрочных рэалій.

Цяпер айчынныя аўтары часам паспяхова капіруюць стыль і сюжэты заходніх кніг. Але задача ранейшая для ўсіх звёнаў выдавецкага ланцуга: заставайцеся, калі ласка, прафесіяналамі.

Госці з «Маладосці»

# Першы міжнародны

Традыцыйны «берасцейскі» і адначасова міжнародны. Такі ён, кастрычніцкі нумар «Маладосці». Тры краіны, тры рэгіёны, тры часопісы ў адным. Брэст, Бяла-Падляска, Роўна. Не, не так. Свежая бяроста Берасцейшчыны, старонкі-казкі Бяла-Падляскі, Роўна роўныя радкі.



Акрамя творчасці паэтаў і празаікаў Брэсцкай вобласці першая, «наша», частка змяшчае прывітальнае слова губернатара Канстанціна Сумара — жывое, сучаснае, па-сапраўднаму «маладосцеўскае», а таксама апошнія электронныя лісты Ніны Мацяш. Гэта частка нумара, уласна кажучы, прысвячаецца яе юбілею, таму і пачынаецца з такіх кранальных да слёз старонак. Што далей? Мінулагодняя дэбютантка «Маладосці» ў раздзеле паэзіі Настасся Нарэйка цяпер выступае з малой прозай. Ці гэтак жа ўдала? Меркаваць чытачам. Сёлетняя паэтка-дэбютантка Настасся Сідорка падаецца не толькі па-беларуску, але і ў перакладзе на польскую. Марыю Кобец, зазначым, прапануецца чытаць на беларускай і ўкраінскай. Валерый Гапееў (як яму ўдалося прапусціць мінулагодні «берасцейскі»?) натхняе свежай аповесцю. Прэзентуюць сваю творчасць іншыя паэты і празаікі (усяго больш як дзесяць творцаў), а Валянціна Локун гэта ўсё аналізуе. «Наша» частка створана пры важкай падтрымцы брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і асабіста Анатоля Крэйдзіча. Аўтару ідэі міжнароднага нумара — намесніку дырэктара па навуковай частцы Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага Але Мяснянкінай — «Маладосць» удзячна асабліва.

Гартаем украінскую частку, створаную пры падтрымцы Ровенскай абласной універсальнай навуковай бібліятэкі з дапамогай намесніка дырэктара Аляксандры Промскай. Эксцэнтрычны Віктар Шупер — з вершамі і філасофскімі эсэ («Простымі словамі мы не гаворым» — сур'ёзная заяўка на поспех за мяжой!), разважлівая Іванна Цімашчук — з падборкай «Я думаць хачу цынамонава», «Вартасць» Валянціны Люліч, «Тэорыі» Арцёма Вішнеўскага, «шляхетная» проза Ірыны Адарака, іншыя выбітныя аўтары з выбітнымі творамі, а таксама аналіз іх у артыкуле Сяргея Сінюка «Праходзьце паўз». Паўтара дзясятка паэтаў і празаікаў Ровеншчыны пазмагаюцца за сімпатыі беларусаў — і не застанецца пераможаных. Затое застанецца зазірнуць на «маладосцеўскі» сайт, каб да вершаў і прозы далучыць візуальнае: праект на паперы падмацоўваецца супраектам «Выяўленчы дадатак», дзе прадстаўлены работы майстроў святла і пэндзля — мастакоў і фатографаў.

Палякі дадалі ў «Выяўленчы дадатак» Аркадзіуша Саўчука з яго малюнкамі тушшу. Іх можна пабачыць не толькі на сайце — мілыя птушкі-каханкі, раслінкі з пёркамі замест лісцікаў, прыкуты да ланцужка яблык, плот твараў (твары плоту?), кубачак, з якога п'ецца лета, — але і ў папяровай версіі: яны дапаўняюць радкі і абзацы лаўрэатаў польскіх літаратурных конкурсаў. Адзначыўшы, што польская частка падрыхтавана пры падтрымцы Бяла-Падляскай гарадской публічнай бібліятэкі і асабіста галоўнага рэдактара «Падляская квартальніка культурнага» Гжэгажа Міхалоўскага, пяройдзем да аўтараў, вельмі маладых і надзвычай таленавітых. Катажына Саўчук выступае з «Непаэтычным непараўнаннем» (як вам такое?), Аляксандра Пенькаш — з «Вельмі неэлегантным вершам», Яна Савіцкая — з ЭСЭмэскамі! Агата Шчодрак прадстаўляе нешта адмыслова-асацыятыўнае —



«Ці то сумленне, ці іншае неба» (чытач, разбярыся). Пауліна Мацеюк сцвярджае, што «Ёсць такі закуток розуму, які кахае цямрэчу». А проза Веранікі Іванюк увогуле падзялілася сваёй назвай з цэлым падляскім блокам гэтай ва ўсіх сэнсах палымянай кастрычніцкай «Маладосці». Дарэчы, увага! Адрыяна Трэпёта падае на старонках акрамя пашпартнага яшчэ і беларускае прозвішча — Нехвядовіч. Пісьменніца шукае родных сваіх продкаў на Беларусі, ды яшчэ такім элегантным чынам — прадастаўляючы для чытання твор, за які атрымала ўзнагароду на Агульнапольскім літаратурным конкурсе імя Ю. І. Крашэўскага. «Падарожжа на месяц» Яцка Хомюка (таксама лаўрэацкае!), далібог, шкада, што давялося скараціць. Затое «сталі» ў нумар і замалёўкі Збігнева Фроньчака, і размова з Янушам Леанам Вішнеўскім, падрыхтаваныя спецыяльна для гэтага незвычайнага нумара — першага міжнароднага. Хочацца, каб нядоўга ён заставаўся адзіным, бо гэта і цікава, і карысна: дэманстраваць, што могуць суседзі.

Так, пра вокладку! Яна таксама «адмысловая»: ілюстрацыю да яе зрабіла берасцейская мастачка Ганна Радзько.

**Святлана ВОЦІНАВА**

# Адшукаць краіну баксаў




А вы ведаеце, што машыны размаўляюць паміж сабой? І што ў іх ёсць сваё «машыннае радыё»? Наталля Кульгавая, напрыклад, ведае. Таму ёй нават удалося падслухаць адну перадачу, якая ішла ў эфіры радыё «Руль». Тэма, якую горача абмяркоўвалі аўтамабільныя эксперты — «Аўдзі А6» Чарныш, «Опель Амега» Рыбка, «ВАЗ 2101» Бяляш і «Фіат Брава» Марукся, — стала асновай для фельетона пад назвай «Сцеражыцеся, аўтамабілі!»... А вось людзям, у прыватнасці, прадпрымальнікам, варта сцерагчыся падробкі дакументаў, «супрацоўніцтва» з ілжэпрадпрыемствамі, недаплаты падаткаў у бюджэт, «левых» прадуктаў і тавараў — адным словам, крымінальных спраў! Пра гэта сведчаць сатырычныя «карацелькі» з рубрыкі «Іголкатэрапія», напісаныя паводле матэрыялаў прэсцэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.

З гумарэсак Галіны Сутулы і Васіля Ткачова чытач даведаецца, чаму і з кім Мікодусь краў бульбу са сваіх сотак і як дзед глумачыў унуку, што такое сто рублёў, з вершаў Міколы Маляўкі і Паўла Саковіча — чаму ўсміхаўся ў садзе змей і дзе тая краіна баксаў, а быль Алеся Козела «Вадкі крышталь» раскажа пра тое, як замочны і руплівы гаспадар Пётр Пятровіч, (па-вясковаму — Пятрук, ці, як яго за вочы звалі, Пэ-Пэ) атрымаў некалі навуку і — талісман, які раз і назаўсёды вылечыў маладога і даверлівага юнака ад неабдуманых рашэнняў.

«Байкі ў прозе» Віктара Лоўгача «насяляюць» розныя персанажы — Заяц і Карова, Агонь і Вада, Мухамор і Масляк ды іншыя. Яны выхваляюцца, ганарацца, бубняць, і становіцца зразумела, што не заўсёды доўгія вушы — галоўнае, а агонь усё можа...

Нарэшце пабачыла свет кніга «Беларуская эпіграма» (Мінск, «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», 2013), складальнікам якой выступіў пісьменнік Казімір Камейша.

Зборнік пачынаецца з эпіграмных «стрэлаў» класікаў нашай літаратуры: Купалы, Коласа, Багдановіча. А завяршаюць яго эпіграмы, што нарадзіліся з-пад пяра зусім нядаўна, у рэаліях нашага жыцця. Асобнымі раздзеламі пададзены эпіграмы невядомых аўтараў, аўтаэпіграмы і гумарыстычныя вершы пад назваю «Іншае, смеху вартае».

Пра ўсё гэта чытачы даведаюцца з рубрыкі «Кнігарня "Вожыка"», а таксама прачытаюць дасціпныя эпіграмы Анатоля Вялюгіна, Казіміра Камейшы, Паўла Саковіча, Яўгена Міклашэўскага, Віктара Шніпа і каментарыі да іх.

Сатырычны раман «Запіскі Самсона Самасуя» прынёс пісьменніку Андрэю Мрыю (сёлета спаўняецца 120 гадоў з дня яго нараджэння) сапраўдную славу. «Мяне натхняла думка, што кніга пра Самасуя будзе адною з вясёлых, жыццерадасных кніг, што выкрывацімуць прайдзісветаў, жулікаў, дармаедаў і паскуднікаў», — адзначаў сам пісьменнік пасля выхаду рамана ў свет. І ніколькі не памыліўся: радкі, напісаныя больш як восем дзясяткаў гадоў таму, застаюцца актуальнымі і сёння... Урывак з рамана друкуецца ў рубрыцы «Класікі смяюцца».

Як заўсёды, багата ў нумары дасціпных афарызмаў. Напрыклад, «Занадта палымянае каханне хутка ператвараецца ў попел» (Барыс Беляжэнка), «Банальная ісціна: калі ты хочаш даць добрую параду свайму начальніку, падумай, як ты будзеш яе выконваць» (Міхаіл Уласенка), «Сабака, вядома, сябар чалавека. Але хіба з ім вып'еш і даведаешся, ці паважае ён цябе?» (Янусь Малец).

Знайшлося месца ў часопісе і для рубрык «Вясёлая пошта», «"Вожык" у асобах» (згадваецца былы галоўны рэдактар часопіса пісьменнік Валянцін Блакіт), «Навіны з МУС: матай на вус...», «"Вожыку" пішуць...» (Сямён Міхайлаў непакоіцца, што неўзабаве збіраць журавіны ў мінскіх лясах давядзецца ледзьве не на пачатку снежня), «Калючык».

Ну а мастакі Мікола Гіргель, Алег Гуцол, Вікенцій Пузанкевіч, Алег Карпович, Аляксандр Шмідт, Алег Папоў, Пятро Козіч, Аляксандр Ціханаў і іншыя вырашылі заняцца спортам («Спартыўныя замалёўкі»), ажаніцца, закадзіравацца, трапіць на прыём да бюракрата, згуляць у шахматы, схадзіць на паляванне, назбіраць грыбоў, падрыхтавацца да зімы («Восеньскія замалёўкі»)...

**Юрый ВЯРБІЦКІ**

# Коротко о главном

«Кто пишет отзывы о книгах? Люди, которые сами не написали ни одной книги». Может, и не написали. А может, просто не вели учёт своих гениальных афоризмов и цитат. Из книги Марка Твена **«Самые остроумные афоризмы и цитаты»**, которая вышла при поддержке ООО «Харвест», можно почерпнуть нечто гораздо большее, чем заурядное «О! Эта цитата отлично подойдёт для моего статуса ВКонтакте!»

После полуторачасового анализа ста пятидесяти двух страниц открывается весьма любопытный факт. Любимыми темами знаменитого писателя были сплетни, ложь, религия, алкоголь, курение и немецкий язык.

«Сначала Бог создал мужчину. Потом создал женщину. Потом Богу стало жалко мужчину, и он дал ему табак».

«Я упразднил бы в немецком языке непомерно длинные составные слова или потребовал бы, чтобы они преподносились по частям — с перерывами на завтрак, обед и ужин». «Одно из главных различий между кошкой и ложью заключается в том, что у кошки только девять жизней».

Что можно узнать из этой книги? Ну, например, то, как Марк Твен однажды подшутил над епископом, как провернул гениальную аферу на 3 доллара, какой совет дал присутствующим на лекции в школе для девочек. А еще о двуличности Теодора Рузвельта, слабой голове Людовика XVI и, в конце концов, о том, что идея Фрэнсиса Скотта Фицджеральда в «Странной истории Бенджамина




Баттона» была не такой уж и новой. И это только вершина айсберга…

Книга может послужить отличным началом для последующего, более глубокого, знакомства с творчеством Марка Твена или, по крайней мере, поднимет настроение, когда на улице идёт дождь.

**Анна ЗАПЛЕЧНИКОВА**

# Приключения рядом!

Книга Астрид Линдгрен **«Почти детективные истории для детей»,** изданная при участии ООО «Харвест», вместила в себя трилогию о знаменитом сыщике Калле Блюмквисте, а также две повести — «Расмус-бродяга» и «Расмус, Понтус и Растяпа».

Калле Блюмквист — выдающийся криминалист, которому ни много ни мало… 13 лет. «*Чаще всего он закрывал глаза на это обстоятельство и, выступая в роли сыщика, всегда представлял себя зрелым мужчиной с острым, проницательным взглядом и небрежно засунутой в рот трубкой*». Лучшие же друзья Калле, как, впрочем, и все окружающие, глаза закрывать не собирались и весьма скептически относились к серьёзному, «взрослому» сыщику. «*Вот увидите, в один прекрасный день он ещё себя покажет — засадит за решётку кого-нибудь, кто стянет шоколадку в магазине его папы*».




Но разве хоть одного сыщика, воспитанного на «Азбуке сыскного дела», это останавливало? Конечно, нет! И Калле был прекрасным тому примером. «*Он взял за правило запоминать приметы всех, кто встречался ему на пути. Разве можно заранее поручиться, что все они окажутся порядочными?*» Как говорится, кто хочет найти преступника, обязательно его найдёт. Калле Блюмквист не только находит, но и собирает достаточное количество улик и, в конце концов, участвует в самом настоящем задержании.

Повесть «Расмус-бродяга» рассказывает об удивительных приключениях 9-летнего Расмуса и его лучшего друга Оскара, которые не в силах больше выносить отвратительные условия детского приюта и сбегают оттуда — навстречу бродячей жизни! Местами грустная, местами смешная, эта история об умении принимать решения и брать на себя ответственность. Не совсем детектив, конечно, но у многих персонажей определённо есть чему поучиться.

В повести «Расмус, Понтус и Растяпа» один из главных героев, Расмус Персон, 11-летний мальчик с безграничной верой в себя и фантастическим упрямством, оказывается в центре самой настоящей гангстерской истории! По счастливому (или не очень) стечению обстоятельств он вместе со своим лучшим другом Понтусом попадает в чужой дом, где происходит ограбление, а верный пёс Расмуса становится заложником преступников…

Эта книга — прекрасная возможность провести уютный домашний вечер со своим ребёнком. Тёплый плед и чашки какао обязательны!

**Анна ЗАПЛЕЧНИКОВА**

# Очень вкусное путешествие

Путеводитель **«ELLE Кулинарное путешествие по Европе»,** изданный при участии ООО «Харвест», придётся по душе тем, кто больше всего на свете любит путешествовать и при этом радовать себя новыми кулинарными изысками. В путеводителе представлена кухня 23 крупнейших городов Европы (Барселона, Женева, Лондон, Париж, Рим, Вена и др.) с кратким описанием самого города, рекомендацией хороших ресторанов и рынков.




К примеру, «Барселона славится не только новаторскими рецептами, но и кулинарными традициями, передающимися из поколения в поколение. В столетней печи у Жиспера по-прежнему жарятся лесные орехи и миндаль, Тома Сирвен рад предложить посетителям знаменитый оршад *orxata de chufa*, ореховое молоко, спасающее жителей от жары с 1920 г., а в баре *Can Paixano* к бутербродам вам обязательно подадут каву — каталонское игристое вино».

Помимо всего этого на каждый город отводится по 3 — 4 рецепта необычных и вкусных блюд (некоторые из них от шеф-поваров известных городских ресторанов), не слишком сложных в приготовлении. Огромное количество красочных иллюстраций заставит не только активно работать ваши слюнные железы, но и позволит почувствовать атмосферу самых известных европейских городов.

**Анна ЗАПЛЕЧНИКОВА**

# Московская история под шведским соусом

Кристина была уверена, что все теории заговоров достаточно просты. Дочь одного из самых богатых и влиятельных бизнесменов Швеции, девушка выбрала жизнь бунтарки, с подросткового возраста не доверяющей ни одному отцовскому слову. Но сейчас она сидит над старой газетой, найденной в сейфе пропавшего в Москве отца, и не может понять, почему одного из влиятельных людей Швеции до сих пор не могут разыскать. Может быть, «френды» из «Фейсбука» помогут ответить на этот вопрос?

Об этом — книга **Йена Фишера «Ночной консьерж»**, которая вышла первой в авторской серии *Sirena* при поддержке ООО «Харвест». Йен Фишер — новое имя в мировой литературе. Это писатель со скандинавскими корнями, хорошо знающий Москву. Некоторое время Йен под другим именем занимался в столице России подпольным туристическим бизнесом: организовывал состоятельным иностранцам туры с запрещёнными развлечениями. Книга рассказывает о таком же молодом ночном консьерже из Москвы.

Серж — человек, создающий нужную иллюзию у своих клиентов за большие деньги. Обед в императорском дворце в Петербурге, «эскорт 20», выстрел из пушки «Авроры» — для ночного консьержа нет ничего невозможного. Клиенты Сержа — миллиардеры из Европы, шейхи и кинозвёзды, дети президентов и министров, послы. И у каждого свои причуды, свои просьбы и условия. Кто-то едет в Россию за революционным духом 1917 года, кто-то — приобщиться к «культурной» жизни российской столицы, кто-то — вывезти ценное животное из зоопарка, например, Самары. Серж организует всё!

Именно он подготовил визит Свена Ларсена в столицу России. Но в Москве шведский миллиардер, владелец одной из крупнейших компаний в Европе, исчезает при загадочных обстоятельствах. Его дочь Кристина, анархистка, презирающая бизнес отца, уже не надеется на помощь интерпола и спецслужб, она самостоятельно начинает поиски и выходит на Сержа. Наверное, самая трудная часть работы ночного консьержа — забывать. Но забыть события последних дней невозможно. Занимаясь подобным бизнесом в России, нельзя не попасться на крючок спецслужб. Вот и сейчас успешный ещё вчера ночной консьерж Москвы сидит в подворотне с бьющимся сердцем…




Очень часто детективы и триллеры оторваны от реальной жизни или гиперболизируют некоторые её аспекты. Роман Йена Фишера в современной литературе отмечают за органичное вплетение болевых узлов времени в ткань захватывающего сюжета. Теле- и радиоведущий Алекс Дубас отметил, что «Ночной консьерж» — увлекательная смесь жанрового триллера и новых тенденций в современной литературе. Трудно поспорить, ведь Йен Фишер стремительно меняет свой титул с «нового имени в мировой литературе» на звание популярного автора, чьи романы читаешь за одну ночь на одном дыхании.

Успех книги и интерес к ней подпитывает нотка автобиографичности. В «Консьерже» Фишер описывает профессиональные похождения того, кем когда-то был сам. В центре романа две фигуры. Серж — болезненный, нервный, но талантливый парень, к своей работе он относится с профессиональной маниакальностью. Кристина Ларсен — задавака, рождённая отдавать приказы, но упорно не желающая корону принимать. В одном из своих интервью Йен Фишер признался, что сам не знает, мог бы хоть кто-то полюбить девушку с таким характером и стремлением к свободе.

«Ночной консьерж» Йена Фишера — пример качественной жанровой литературы XXI века. Если вы приверженец глубоких и многоплановых произведений, — роман для вас! Книга вырывает из ежедневной суматохи, погружая в мир, где есть питерский лоск дворцов, шведская обходительность и… приключения молодого украинского парня.

**Юлия ШАБЛОВСКАЯ**

# Бацькаў сад і матчына слова



Імя Уладзіміра Навумовіча добра вядома шырокай літаратурнай грамадскасці. Пісьменнік, літаратуразнавец, крытык, публіцыст, выкладчык роднай літаратуры, аўтар 9 манаграфій, вучэбных дапаможнікаў, кніг прозы, больш як 350 навуковых артыкулаў, папулярызатар гісторыі, літаратуры і культуры Беларусі, шчыры руплівец на ніве сучаснай літаратурнай навукі…

Нарадзіўся Уладзімір Навумовіч 29 кастрычніка 1943 года ў вёсцы Баўцічы Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці ў сям'і служачых. Маці, Марыя Гаўрылаўна, больш як 30 гадоў аддала настаўніцкай працы і прывіла любоў да роднага слова, павагу да зямлі беларускай, яе гісторыі і людзей. Бацька, Аляксандр Раманавіч, партызаніў у Налібоцкай пушчы, удзельнічаў у баях за вызваленне Венгрыі, Югаславіі, перамогу сустрэў у Альпах. Пазней, у сталым узросце, Уладзімір Навумовіч прысвяціў яму дакументальную аповесць «Бацькаў сад», якая друкавалася ў карэліцкай раённай газеце «Полымя» (1985). Як пасля згадваў сам пісьменнік, менавіта настаўніцкае асяроддзе, у якім гадаваўся і дзе з асаблівым піетэтам вымаўляліся імёны Янкі Брыля, Уладзіміра Калесніка, з якімі бацька партызаніў, а маці вучылася ў школе, сфарміравала вялікую цягу да вучобы і трапяткое стаўленне да прафесіі настаўніка літаратуры. Гэтым, відаць, можна патлумачыць і выбар вышэйшай навучальнай установы — філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

На аддзяленні беларускай мовы і літаратуры філфака Белдзяржуніверсітэта Уладзімір Навумовіч вучыўся з 1961 па 1966 год. Сапраўдным духоўным бацькам, дарадцам, а пасля і добрым сябрам стаў для яго прафесар Алег Антонавіч Лойка, які яшчэ на другім курсе прыкмеціў таленавітага юнака, вылучыў сярод іншых яго курсавую працу па творах Максіма Гарэцкага і павёў за сабою па «лабірынтах» беларускага літаратуразнаўства.

Пасля заканчэння ўніверсітэта У. Навумовіч быў накіраваны на камсамольскую работу. Беларускае літаратуразнаўства, аднак, па-ранейшаму вабіла да сябе багаццем эстэтычнай думкі, прызнанымі аўтарытэтамі ў літаратурнай навуцы, новымі адкрыццямі, і ўчарашні студэнт Уладзімір Навумовіч становіцца аспірантам кафедры беларускай літаратуры БДУ, дзе пасля трохгадовай вучобы з поспехам абараняе кандыдацкую дысертацыю па тэме «Проза "Маладняка"» (1974). З 1973 года — выкладчык, а з 1978-га — дацэнт кафедры беларускай літаратуры філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.

У 1982 — 1983 гадах У. Навумовіч загадвае кафедрай рускай мовы для замежных студэнтаў. У 1989-м — загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры для прыродазнаўчых факультэтаў, а з 1989-га па 2000-ы — загадчык кафедры беларусазнаўства філалагічнага факультэта БДУ. З 2003 па 2008 год працаваў саветнікам рэктара БДУ.

У 1990 — 1994 гг. У. Навумовіч узначальвае Міжнародную школу беларускай мовы, літаратуры і культуры, якую арганізаваў па ўласнай ініцыятыве на ўмовах самаакупнасці і самафінансавання. Слухачамі школы былі вучоныя-славісты, студэнты, перакладчыкі з Аўстрыі, Вялікабрытаніі, ЗША, Германіі, Італіі, Егіпта, Канады, Македоніі, Польшчы, Расіі, Славеніі, Швейцарыі, Украіны, Чэхіі, Францыі, Японіі. Вынікам працы школы стала ўтварэнне навукова-культурных асяродкаў беларусазнаўства ў Італіі, Аўстрыі, Германіі, Швейцарыі, Егіпце, Японіі ды іншых краінах.

Сфера навуковых зацікаўленняў У. Навумовіча цесна звязана з пытаннямі развіцця беларускай літаратуры XX стагоддзя, літаратурнымі рухамі 20-х гадоў, ідэйна-эстэтычнай эвалюцыяй беларускай аповесці, этычна-канцэптуальнымі асновамі ўсёй беларускай паэзіі і прозы. Шчыра захоплены мастацтвам слова, яго сутнасцю, даследчык дасягае ў сваіх літаратуразнаўчых працах высокага ўзроўню. Сведчаннем гэтаму — манаграфіі «Шляхамі арлянят. Проза "Маладняка"» (1982), «Маральнае аблічча героя ў беларускай мастацкай прозе 60 — 80-х гг. XX стагоддзя» (2000), падручнікі і навучальныя дапаможнікі «Беларусазнаўства» (1998), «Беларуская літаратура» (2000), «Белорусская литература» (2007) і інш.

> *«Для даследчай манеры У. Навумовіча не характэрна адцягненасць зместу, абстрактнасць разважанняў: агульная гаворка пра літаратуру не адыходзіць далёка ад тэкставай асновы. Уладзімір Аляксандравіч з тых, на жаль, нешматлікіх, даследчыкаў літаратуры, для якіх існуе культ слова як у мастацкім творы пісьменніка, так і ва ўласным даследчым стылі.*

Кніга «Беларуская літаратура» выходзіла ў выдавецтве «Вышэйшая школа» тры разы — у 2000, 2007 і 2013 гадах. У апошнім выданні даследчык імкнецца разнастаіць чыста знешнюю, фармальную манеру навуковага даследавання: на суправаджальным дыску голасам аўтара выдання начытаны лепшыя творы класічнай і сучаснай беларускай літаратуры.

Для даследчай манеры У. Навумовіча не характэрна адцягненасць зместу, абстрактнасць разважанняў: агульная гаворка пра літаратуру не адыходзіць далёка ад тэкставай асновы. Уладзімір Аляксандравіч з тых, на жаль, нешматлікіх, даследчыкаў літаратуры, для якіх існуе культ слова як у мастацкім творы пісьменніка, так і ва ўласным даследчым стылі.

Вядомы Уладзімір Навумовіч і як празаік. Першае апавяданне «Навыраст» было змешчана ў 1964 годзе ў навагрудскай раённай газеце «Новае жыццё». Тады ж адбыўся дэбют і ў рэспубліканскім друку: газета «Чырвоная змена» надрукавала апавяданне «На скразняку». У. Навумовіч — аўтар аповесці пра камсамол «Узаранае поле» (1968), якая ў свой час мела значны грамадскі рэзананс, кнігі прозы «Такое бывае аднойчы» (1982). У творах празаіка паўстае кола вечных праблем, з якіх і выснавана само жыццё: бацькоўскі дом, сям'я як духоўны асяродак, адносіны да родных і блізкіх, чалавек у кантэксце грамадства наогул і многае іншае.

Асобныя апавяданні У. Навумовіча былі перакладзены на рускую і ўкраінскую мовы. У 2009 годзе ў часопісе «Наш современник» на рускай мове былі апублікаваны главы з новага рамана «Вобюлиманс»(«С нами любовь»). Раман пабудаваны на канкрэтных жыццёвых фактах. Рэчаіснасць — крыніца наватарскага адкрыцця літаратурных ідэй і вобразаў. У творы шмат рэальных людзей, пазнавальных вобразаў з універсітэцкага асяродка, аднак шырокаму чытачу прапануецца не толькі сямейная хроніка, але гісторыя кахання, вернасці, здрады, адданасці каханаму, а больш за ўсё — справе, творчасці, ідэалам маладосці. Размова ідзе пра асэнсаванае, філасофскае бачанне жыцця з пэўнай духоўнай вышыні.

Уладзімір Навумовіч добра вядомы як папулярызатар беларускай літаратуры і культуры далёка за межамі рэспублікі. Па запрашэнні Лонданскага ўніверсітэта чытаў лекцыі па беларускай літаратуры ў Англіі, працаваў у беларускай бібліятэцы імя Францыска Скарыны ў Лондане, шмат разоў удзельнічаў у працы моўных семінараў у Югаславіі, усталёўваў навуковыя кантакты з вядучымі ВНУ Германіі, Аўстрыі, Венгрыі, Польшчы, Славеніі, іншых краін. Уладзімір Аляксандравіч на працягу многіх гадоў з'яўляецца нязменным лектарам і прапагандыстам таварыства «Веды», арганізатарам і актыўным удзельнікам шматлікіх навуковых і навукова-метадычных канферэнцый, студэнцкіх дыспутаў, літаратуразнаўчых і краязнаўчых вікторын, а таксама штогадовага свята студэнтаў-філолагаў у Вязынцы і інш.

У спецыяльна распрацаваных для студэнтаў Белдзяржуніверсітэта лекцыйных курсаў «Беларусазнаўства» і «Універсітэтазнаўства» ім даследуюцца і прапагандуюцца праблемы фарміравання ўніверсітэтаў як цывілізацыйных феноменаў у свеце пачынаючы з сярэднявечча да нашых часоў, гісторыя і ўмовы фарміравання БДУ як навуковага інстытута, а таксама розныя аспекты навучання. У 2011 годзе асобным выданнем выйшла кніга «Універсітэт — феномен цывілізацыі», якая была адзначана дыпломам «Лепшая кніга года» ў намінацыі «Краязнаўства».

І сёння, у свае семдзесят, Уладзімір Аляксандравіч па-ранейшаму малады і актыўны: ён працуе над новымі кнігамі, падручнікамі, артыкуламі па папулярызацыі беларускай літаратуры і культуры, чытае лекцыі і распрацоўвае новыя курсы і праграмы, ездзіць з выступленнямі па краіне, выношвае новыя задумы і праекты. Сучасная літаратурная навука выходзіць на новыя далягляды, шукае новыя падыходы. Літаратуразнаўчая і педагагічная дзейнасць Уладзіміра Навумовіча, дацэнта кафедры беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта, самым непасрэдным чынам жывіць гэтыя намаганні, бо яна запатрабаваная маладымі даследчыкамі і чытачамі.

**Таццяна БЕЛЬСКАЯ**

# Шанаванне земляка

Лёс неаднойчы выпрабоўваў Уладзіслава Нядзведскага. У 1943 годзе падчас аблавы на партызан і мясцовых жыхароў, якія хаваліся ў лесе, на вачах чатырнаццацігадовага хлапчука фашысты забілі яго бацьку і маці, брата і сястру. Ён выхоўваўся ў Мікашэвіцкім дзіцячым доме, дзе пасля застаўся старшым піянерважатым. А ў сорак чатыры гады, ужо працуючы ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», пісьменнік трагічна загінуў і сам.

І ўсё ж імя Уладзіслава Нядзведскага засталося ў памяці нашчадкаў. Яно пазначана не толькі на яго кнігах, але і на карце самага «гранітнага» беларускага горада Мікашэвічы Лунінецкага раёна. У гонар пісьменніка названа адна з гарадскіх вуліц, яго імя носіць і мясцовая гімназія, на будынку якой прымацавана памятная шыльда. Разгорнута пастаянная музейная экспазіцыя, прысвечаная жыццёваму і творчаму шляху слыннага земляка.

А нядаўна, роўна праз сорак год пасля гібелі, ва ўрачыстай абстаноўцы тут быў устаноўлены бюст Уладзіслава Нядзведскага. На сабраныя навучэнцамі і выкладчыкамі грошы ад продажу прадукцыі, вырашчанай сваімі рукамі на «гімназічных» градках, яго зрабіў скульптар Аляксандр Русецкі. Падчас урачыстага мітынгу з гэтай нагоды, які вёў нястомны прапагандыст творчасці пісьменніка, дырэктар гімназіі Сяргей Высоцкі, выступілі сябар Уладзіслава Іосіфавіча паэт Казімір Камейша, сын Віктар, старшыня Мікашэвіцкага гарвыканкама Анатоль Давыдовіч, загадчык аддзела адукацыі, спорту і турызму Лунінецкага райвыканкама Іван Ракові. У выкананні гімназістаў прагучалі вершы і песні на словы У. Нядзведскага.

А потым у актавай зале гімназіі была прадстаўлена паэтычна-музычная кампазіцыя паводле твораў Уладзіслава Нядзведскага. Адбылося ўзнагароджанне пераможцаў і прызёраў штогадовага літаратурнага конкурсу, які носіць імя пісьменніка. Дыплом пераможцы атрымала Анастасія Ерамеевіч. Яго прызёрамі па выпадковым супадзенні аказаліся яшчэ тры Анастасіі — Меркушава, Ткачэнка і Дзедзіна.

З цікавасцю слухалі прысутныя ў зале і выступленні ганаровых гасцей свята пісьменнікаў Анатоля Зэкава, Уладзіміра Мароза, Казіміра Камейшы, а таксама барда Аляксея Нежаўца. А. Зэкаў і У. Мароз завіталі ў гімназію не ўпершыню. А колькі ўсяго пісьменнікаў па ініцыятыве арганізатара такіх сустрэч Людмілы Несцяровіч і бібліятэкара гімназіі Марыі Клеўжыц прыняла навучальная ўстанова за час свайго існавання, і злічыць цяжка: сустрэчы з творцамі сталі добрай традыцыяй.

**Анатоль ПАТАПАЎ**

# Памятаюць у Турыне Маўра

На будынку Турынскай сярэдняй школы Пухавіцкага раёна ўсталявана мемарыяльная дошка, прысвечаная памяці Янкі Маўра.

Яшчэ ў пярэдадзень Вялікай Айчыннай вайны ў стаража́тнай вёсцы Турын на беразе Свіслачы адпачываў славуты пісьменнік Янка Маўр. Тут пісаў ён некаторыя свае творы. Прыязджаў і ў пасляваенныя гады.

На адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў Турын наведаліся малодшы сын Якуба Коласа і зяць Янкі Маўра — доктар тэхнічных навук Міхась Міцкевіч, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка» Уладзімір Ліпскі, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, паэт Алесь Камароўскі.

— Пухавіччына традыцыйна мае багатую літаратурную гісторыю, — расказвае ініцыятар усталявання дошкі, дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея Аляксандр Прановіч. — І мы робім усё магчымае для літаратурнай мемарыялізацыі асобных мясцін раёна і горада Мар'іна Горка. У нас адкрыты памятныя дошкі ў гонар Якуба Коласа, Алеся Бачылы, Генадзя Кляўко, Уладзіміра Хадыкі… А ў самім музеі ў Блоні і ў яго філіяле ў Мар'інай Горцы ўвазе наведвальнікаў прапануецца цікавыя гісторыка-літаратурныя экспазіцыі.

**Сяргей ШЫЧКО**



# Кінафэст стартаваў!

**Цырымонія адкрыцця 20-га Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад» пройдзе сёння ў вялікай зале Палаца Рэспублікі. У цэнтры ўвагі будуць не дарагія зоркі масавага экрана, а беларускія акцёры.**

Вечар пачнецца шэсцем гасцей і ўдзельнікаў фестывалю па чырвонай дарожцы хола Палаца Рэспублікі. Па ёй пройдуць таксама і беларускія актрысы ў сукенках ручной работы катэгорыі «ад куцюр», якія спецыяльна для «Лістапада» прывязе мадэльер Дэні Дзюран з самага «кінематаграфічнага» горада Францыі — Канаў.

Юбілейную атмасферу ў Палацы будуць ствараць прымеркаваныя да гэтай падзеі выстаўкі Музея гісторыі беларускага кіно: «40 гадоў. Гісторыя беларускіх анімацыйных мультфільмаў», «Гісторыя ў кадрах», прысвечаная 85-годдзю з дня заснавання кінастудыі «Беларусьфільм», «70 гадоў з дня нараджэння беларускага рэжысёра Міхаіла Пташука».

Кульмінацыяй вечара стане выступленне вучня Пласіда Damінга і Мансерат Кабалье, украінскага тэнара Юрыя Лук'яненкі, вядомага пад псеўданімам Godo. А ў якасці рэжысёра цырымоніі ўпершыню выступіць Дзмітрый Сергяйчук, выкладчык кафедры рэжысуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Пасля заканчэння цырымоніі адкрыцця на дзвюх пляцоўках (Малая зала Палаца Рэспублікі і кінатэатр «Цэнтральны») пачнецца паказ фільма «Параджанаў» (рэжысёры Алена Фяцісава, Серж Аведзікян).

**Таццяна ШЫМУК**

# Пачутае душою

**Міжнародная выстаўка «Ціхія адкрыцці» прайшла ў Вільнюсе. Наведвальнікі пабачылі работы беларускіх і літоўскіх юных мастакоў — дзяцей з парушэннямі слыху.**



*На адкрыцці выстаўкі ў Вільнюсе юныя мастакі з паслом Рэспублікі Беларусь у Літве Уладзімірам Дражыным, кіраўніком творчай майстэрні «Фарба» Дзмітрыем Ярмілавым, дырэктарам школы № 14 г. Мінска Наталляй Краўчук.*



*Адно з «Ціхіх адкрыццяў».*

Праект, вынікам якога сталася выстаўка, распачаўся ў ліпені 2013 года. Літоўскае таварыства «Pagava» («Успрыманне»), што аб'ядноўвае сем'і, якія гадуюць дзяцей з дэфектамі слыху, арганізавала ў Тракайскім раёне творчы лагер для таленавітых дзяўчат і хлопцаў з Літвы і Беларусі. Гэтая ідэя рэалізавалася дзякуючы фінансавай падтрымцы Праграмы супрацоўніцтва ў мэтах развіцця Міністэрства замежных спраў Літоўскай Рэспублікі.

З беларускага боку да ўдзелу былі запрошаны навучэнцы мінскай спецыялізаванай школы № 14 для дзяцей з парушэннямі слыху. Заняткі ў лагеры вялі літоўская мастачка Сільвана Хацкінг і беларускі жывапісец Дзмітрый Ярмілаў, які ўжо 20 гадоў кіруе творчай майстэрняй «Фарба» ў школе № 14. Натхненне і ідэі для сваіх твораў маленькія мастакі чэрпалі ў вандроўках па Вільнюсе і Тракаі: на працягу сямі дзён працы лагера яны пабывалі ў галерэі «Пілімa», музеі-вежы Гедымінаса, наведалі Палац вялікіх князёў літоўскіх, Тракайскі замак, сядзібу і парк Ужутракіс.

На адкрыцці выніковай выстаўкі ў Публічнай бібліятэцы Вільнюскага рэгіёна імя Адама Міцкевіча было шматлюдна. Не кожны сучасны вернісаж збірае столькі гасцей. Прысутнічалі і самі юныя мастакі, іх бацькі, сябры ды педагогі. Арганізатараў і ўдзельнікаў выстаўкі павіншаваў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы Уладзімір Дражын. Прыйшло нямала зацікаўленых гледачоў, бо творы маленькіх асоб, якія ўспрымаюць свет не так, як большасць з нас, узрушваюць і зачароўваюць.

Займаючыся з таленавітымі дзецьмі, Сільвана Хацкінг і Дзмітрый Ярмілаў не навязваюць ім стандартаў «акадэмічнага» малявання, а імкнуцца разняволіць творчую індывідуальнасць кожнага з юных мастакоў, адкрываюць ім сакрэты розных тэхнік і матэрыялаў, дапамагаюць выпрацаваць свой адметны «почырк». Таму творы на выстаўцы захапляюць разнастайнасцю. Уражваюць фантазійныя кампазіцыі Валерыі Савінскай, запамінальныя калажы Аляксея Дземідовіча, смелыя абстракцыі Паўла Квітнеўскага, паветраныя, летуценныя вывы Альбіны Клімовіч, яскравыя фактурныя карціны Давіда Герко, надзвычай экспрэсіўныя работы Мікіты Румянцава, дынамічныя, эмацыянальныя вобразы Андрэя Ігнаценкі, дзёрзкія спалучэнні колераў у творах Віталя Мельнікава. Гэтым дзецям ёсць што сказаць, і яны гавораць — моваю колераў, ліній, формаў.

З 25 кастрычніка па 15 лістапада работы маладых творцаў экспануюцца ў Мінскай абласной бібліятэцы імя Аляксандра Пушкіна.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

# Без грыму

**Сёння ў кінатэатры «Цэнтральны» адкрываецца фотавыстаўка «Маё кіно. 1970 — 1990-я гг.» вядомага акцёра тэатра і кіно, народнага артыста Літоўскай Рэспублікі Юозаса Будрайціса. Экспазіцыя ўяўляе серыі фатаграфій, створаных падчас здымак фільмаў 70 — 90-х гадоў: «Гэта салодкае слова — свабода!» (1972), «З табой і без цябе»(1973), «Падранкі» (1976) ды іншых.**

Выстаўка праходзіць у межах XX Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад», членам журы якога ў гэтым годзе будзе Юозас Будрайціс. Праект арганізаваны сумесна з Пасольствам Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь.

Юозас Будрайціс фатаграфуе з пачатку 60-х гадоў, і ўсе 70-я ён практычна не выпускаў фотаапарата з рук. А паколькі галоўным у яго жыцці ў тыя гады быў кінематограф, то Будрайціс працягваў фатаграфаваць і на здымачных пляцоўках. Так паўсталі цэлыя серыі фатаграфій: партрэты, лірычныя замалёўкі, нацюрморты. На здымках можна ўбачыць любімых акцёраў у тыя моманты, калі кінакамера не працуе. Многія кадры зняты фатографам у стылістыцы саміх фільмаў: лірычныя інтанацыі ўласцівыя здымкам са сцэнічнай пляцоўкі карціны «З табой і без цябе» пра каханне хутаранца Фёдара Базырына, якога і сыграў Будрайціс, напружанасць з элементамі экзальтаванасці ў кадрах са здымак фільма «Гэта салодкае слова — свабода».

Сёння асабліва каштоўныя фатаграфічныя партрэты Будрайціса, на якіх можна пабачыць тых, хто пайшоў з жыцця: акцёраў Алега Янкоўскага, Георгія Буркова, Інакенція Смактуноўскага, Аляксандра Кайданоўскага, аператараў Сяргея Урусеўскага і Аляксандра Княжынскага, пісьменніка і сцэнарыста Юліяна Сямёнава.

Персанальныя выстаўкі Юозаса Будрайціса, фатографа і мастака, прайшлі ў Маскве, Вільнюсе, Калінінградзе, Ніжнім Ноўгарадзе, але гэта толькі невялікая частка яго фотаархіва, галоўная дзеючая асоба якога — кінематограф.

Выстаўка будзе працаваць да 17 лістапада.

**Таццяна ШЫМУК**

# Віктар Бабарыкін: «Жадаю, каб вы слухалі больш добрай музыкі»



Прэзідэнцкі аркестр Рэспублікі Беларусь існуе ўжо 10 гадоў. У рэпертуары калектыву — творы беларускіх кампазітараў, эстрадныя кампазіцыі для аркестра, апрацоўкі народных песень, а таксама класіка ўсіх эпох і стыляў — ад барока да джаза і сімфарока. Акрамя таго, ён вядомы і сваімі разнажанравымі музычнымі праектамі. Пра цікавае і насычанае жыццё знакамітага аркестра Беларусі распавёў яго мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Віктар Бабарыкін.

**— Пачатак сезона для Прэзідэнцкага аркестра Беларусі стаў вельмі актыўным.**

— Так, адбылося выступленне ў Астрахані. Мы заваявалі горад праектам «Дым над вадой». Плануюцца выступленні аркестра за мяжой. Цяпер чакаем ад менеджменту Палаца Рэспублікі новых прапаноў. Усё наперадзе. Ёсць цікавыя і яркія выканаўцы, якіх мы плануем запрашаць да ўдзелу ў канцэртах.

**— Вы супрацоўнічаеце з многімі вядомымі артыстамі. Сёння ў афішы мы бачым сумеснае выступленне з вядомым кампазітарам Эніа Марыконэ. Што чакае гледачоў на гэтым канцэрце?**

— Для нас вялікі гонар супрацоўнічаць з сусветнымі зоркамі, і мы ўдзячныя Палацу Рэспублікі за такую магчымасць. Сапраўды, плануецца канцэрт пад кіраўніцтвам вялікага Эніа Марыконэ. Сёння я рыхтую аркестр да выступлення, мы развучваем творы. Легенда прыедзе дырыжыраваць асабіста! Яго творы ведаюць ва ўсім свеце. Дарэчы, у Эніа Марыконэ было шмат іншых прапаноў, але ён абраў наш аркестр, што выклікае безмоўную радасць і гонар.

**— Якія задачы сёння ставіць перад сабой Прэзідэнцкі аркестр?**

— Галоўная задача, як сказаў Прэзідэнт нашай краіны Аляксандр Лукашэнка, — іграць для жыхароў Беларусі. Таму мы складаем праграмы, якія любяць гледачы. Напрыклад, «Дым над вадой»: дзве вялікія залы, дзве праграмы. Гэта ж плануецца і на наступны год. Пакуль не хапае на ўсё часу, таму што цяпер мы ўпершыню рыхтуем вялікае відовішчнае шоу на Новы год.

Вядома, аркестр займаецца папулярызацыяй і класічнай музыкі. Так, малы склад гастралюе па гарадах Беларусі. А ўвогуле, у нашым калектыве працуюць розныя групы, што дазваляе іграць розныя праграмы, ісці далей, развівацца. Праца ў аркестры даволі напружаная, таму мы прыкладаем усе намаганні, каб глядач, які прыходзіць на канцэрт, пачуў не толькі жывы гук, але і яго якасць.

**— У працэнтных суадносінах чаго больш — эстрады або класікі?**

— Мы балансуем: 50 на 50. Але на пляцоўках эстрадныя кампазіцыі выконваюцца крыху часцей, таму што мы павінны прыносіць даход краіне. Эстрада больш запатрабавана слухачом. Сур'ёзна працуем над тым, каб нашы праекты былі не толькі якаснымі, але і рэнтабельнымі.

**— У вас шмат праграм. Як музыканты спраўляюцца з пастаўленай задачай?**

— Нашы артысты дастаткова кваліфікаваныя. Кожны дзень ідзе карпатлівая праца. І не магу сказаць, што гэта проста. Усе мы працаголікі. Я вельмі ганаруся сваімі артыстамі!

**— Што з'яўляецца стымулам для артыста вашага аркестра?**

— Энергетыка, якая ідзе ад дырыжора і выканаўцы. Калі, напрыклад, заходзіць у студыю Дзмітрый Хварастоўскі — усё квітнее.

Палац Рэспублікі робіць усё, каб затрымаць музыкантаў у сваёй краіне. У нас існуе фонд па падтрымцы таленавітай моладзі, ідзе сур'ёзны рух у гэтым плане. Павінен быць не толькі фінансавы, але і творчы стымул. А наогул, лічу, што ў Беларусі выдатныя музыканты і аркестры. Жадаю, каб нашы чытачы слухалі больш добрай музыкі.

**Яна ХАДОСКА**

СУМЕСНЫ ПРАЕКТ ШТОТЫДНЁВІКА «ЛіМ» І НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКІ БЕЛАРУСІ

ЁЗЎЛЯНЗНЬЮШЫТАЖ

*1 лістапада 2013 г.*

# Вясной — чытанні, восенню — кангрэс

Міжнародны кангрэс «Бібліятэка як феномен культуры», арганізаваны Міністэрствам культуры Беларусі і Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, прайшоў у Мінску.

**Даніла АРЦІМОВІЧ**

Вытокі кангрэса варта шукаць пачынаючы з 1998 года, калі ў краіне пачалі ладзіцца кнігазнаўчыя чытанні. Спярша яны мелі камерны фармат, але пакрысе праграма ўсё больш павялічвалася. Так чытанні пераўтварыліся ў міжнародныя канферэнцыі, а ў мінулым годзе — ва ўніверсальны навуковы форум, прысвечаны праблемам кнігі. Сёлета было вырашана працаваць у двух кірунках: вясной ладзіць чытанні, восенню — кангрэс.

Праграма сёлетняга форуму падзялялася на дзве часткі: канферэнцыя «Інфармацыйнае грамадства і грамадства ведаў: роля і месца бібліятэк» і выстаўка «Электронныя інфармацыйныя рэсурсы і сэрвісы». Экспазіцыя складалася з чатырох раздзелаў, якія ўключалі інфармацыйныя рэсурсы, генерыраваныя буйнымі бібліятэкамі нашай краіны, інфармацыйнымі цэнтрамі, зробленыя за мяжой і прапанаваныя кніжніцам Беларусі, а таксама праграмна-тэхнічныя комплексы і сэрвісы, якія могуць быць выкарыстаны ў іх працы. Дарэчы, на форуме прагучала спадзяванне, што ў далейшым выстаўка будзе праходзіць рэгулярна.

Пра папулярнасць форуму сведчыў той факт, што для ўдзелу ў пленарным і секцыйным пасяджэннях было адабрана каля 150 дакладаў. Акрамя беларусаў выступілі прадстаўнікі з 17 краін блізкага і далёкага замежжа — Бельгіі, Вялікабрытаніі, Ірака, Палестыны, Польшчы, Узбекістана, Швецыі. А колькасць асоб, зарэгістраваных на кангрэсе, склала больш як 500 чалавек.

З дакладаў, якія прагучалі на пленарным пасяджэнні, найбольш цікавымі падаліся два. Гудаўскас Рэналдас, генеральны дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Літвы імя М. Мажвідаса, у сваім выступленні спыніўся на праблемах прыстасавання бібліятэк да патрэб інфармацыйнага грамадства. Паводле яго прагнозаў, да 2020 года колькасць лічбавай інфармацыі будзе дасягаць 35 трыльёнаў гігабайтаў. Нацыянальная лічбавая



*Фота Кастуся Дробава*

інфраструктура становіцца асноўным інфармацыйным рэсурсам. Рэфармаваць бібліятэчны сектар можна ў большай ступені дзякуючы прадстаўнікам навукі і бізнесу.

Уміда Цешабаева, намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Узбекістана імя Алішэра Наваі, распавяла пра агульны стан бібліятэчнай сістэмы ў краіне. У межах рэформы ўсе кніжніцы былі перададзены з падпарадкавання міністэрства культуры пад юрысдыкцыю некалькіх міністэрстваў, якія адказваюць за розныя сферы адукацыі. Дакладчыца распавяла пра новы будынак Нацыянальнай бібліятэкі Узбекістана, дзе маецца 12 чытальных залаў, палац сімпозіумаў, музей кнігі, кнігарня, а таксама кінацэнтр, у якім ідуць фільмы на ўзбекскай, англійскай і рускай мовах. Дарэчы, нядаўна ў кніжніцы прайшлі трохмесячныя курсы англійскай мовы, якія наведвалі ўсе супрацоўнікі.

Пасля пленарнага пасяджэння пачалася работа секцый. Акрамя таго, праграма была пашырана за кошт трох круглых сталоў («Віртуальная рэканструкцыя спадчыны Ю. І. Крашэўскага», «Узаемадзеянне нацыянальных бібліятэк Еўропы па захаванні агульнай культурнай спадчыны» і «Віртуальныя і сацыяльныя сэрвісы ў інфармацыйным абслугоўванні карыстальнікаў бібліятэк»), а таксама дыскусійнай пляцоўкі «Беларуская бібліятэка будучыні» і семінара-дыялогу «Карпаратыўнае ўзаемадзеянне бібліятэк Беларусі ў межах праекта LibКАРД».

# Новы стары летапіс

Нацыянальная бібліятэка Беларусі і выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» прэзентавалі факсіміле «Баркулабаўскага летапісу». Летапіс змяшчае ўнікальныя звесткі па гісторыі ўсходняй Беларусі: інфармацыя пра ваенныя падзеі, культуру, дзейнасць праваслаўнай царквы і, канечне ж, пра гістарычных асоб.

Усё гэта дае падставы называць «Баркулабаўскі летапіс» адной з найцікавейшых летапісных крыніц нашай краіны. Асабліва калі прыняць да ўвагі, што не так і шмат захавалася летапісаў. І яшчэ меней тых, што знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі.

Зрэшты, і спісы «Баркулабаўскага летапісу», з якіх рабілася факсіміле, захоўваюцца ў Маскве. Толькі дзякуючы асабістым сувязям паміж навукоўцамі дзвюх краін сталася магчымым рэалізаваць праект.

Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Раман Матульскі нагадаў, што тут пачалі займацца аднаўленнем і перавыданнем старажытных кніг і дакументаў адразу ж, як Беларусь стала незалежнай краінай. Створаны рэестр кніжных помнікаў, вартых увагі, «якія хацелася б выцягнуць наверх». Асабліва плённае супрацоўніцтва — з Праваслаўнай царквой. Так, сярод выдадзеных старажытнасцей ужо ёсць «Слуцкае евангелле», «Полацкае евангелле», «Жыцце Еўфрасінні Полацкай». Цешыць і тое, што не застаюцца абыякавымі да вялікай справы беларускія бізнесмены.

Праца над кнігамі вялася надзвычай хутка: з сакавіка па чэрвень. Так, менавіта над кнігамі. Першая — уласна факсіміле, шыкоўна аздобленае, у скуранай вокладцы, на глянцавай паперы. І кошт адпаведны — паўмільёна беларускіх рублёў. Другая кніга — тэкст «Баркулабаўскага летапісу», разбіты на абзацы, са зразумелай пунктуацыяй, каментарыямі і тлумачэннямі; у ёй таксама змешчаныя фрагменты з факсіміле. Відавочна, другое выданне адрасуецца шырокаму колу чытачоў, першае ж — перадусім навукоўцам і калекцыянерам. Дарэчы, наклад факсіміле — 100 экзэмпляраў.



— «Баркулабаўскі летапіс» заслугоўвае асаблівай увагі. Гэта знакавы помнік летапісання Беларусі, — падкрэслівае Алесь Суша, намеснік дырэктара па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі — адзін з тых, хто працаваў над выданнем факсіміле. — Летапіс — гэта і літаратурны твор, і гістарычная крыніца, і помнік культуры сваёй эпохі. Нездарма ён лічыцца сёння брэндам Магілёўшчыны. Дарэчы, усталяваны ў Быхаве помнік «Баркулабаўскаму летапісу» — першы помнік кнізе ў нашай краіне. Мусіць, гэта таксама пра нешта сведчыць.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

## Месца сустрэчы

# У горад Гарадок

Пісьменнік Генадзь Пацыенка — масквіч, але часцей жыве на Віцебшчыне, у вёсцы Зубакі Лёзненскага раёна. Адной гадзіны хапіла яму для таго, каб прыехаць на творчы вечар у горад Гарадок, пабываць у цэнтральнай раённай бібліятэцы, сустрэцца з членамі літаратурнага клуба «Гарадзянка», наведаць краязнаўчы музей, каб бліжэй пазнаёміцца з гісторыяй і побытам Гарадоцкага раёна.

Жыхары горада — моладзь, служачыя, творчая інтэлігенцыя, людзі сталага ўзросту — віталі пісьменніка ў памяшканні Дзіцячай школы мастацтваў. Гучала чароўная музыка цымбал. Пра жыццё і творчасць пісьменніка распавялі вядучыя вечара — пісьменніца Наталля Саветная, а таксама аўтар гэтых радкоў. Пад музычнае суправаджэнне чытала вершы, прысвечаныя госцю, урыўкі з яго апавяданняў і аповесцей. Падчас размовы гледачы маглі пабачыць на экране карціны жыцця творцы: фатаграфіі, асноўныя вехі біяграфіі, творчыя дасягненні, узнагароды…

Генадзь Пацыенка — аўтар больш як 20 кніг, пераможца шматлікіх літаратурных конкурсаў. За кнігу «Дні сярод маланак» наш зямляк удастоены звання Пачэснага акадэміка Пушкінскай акадэміі. Асобнай кнігай у Маскве выйшла аповесць «Пакуль куля ляціць», за якую Генадзь Барысавіч быў узнагароджаны сярэбраным медалём Міжнароднага Саюза славянскіх журналістаў.

Сёлета пісьменнік уганараваны дыпломам лаўрэата літаратурна-грамадскай прэміі і ордэнам імя С. Ясеніна, удастоены звання лаўрэата конкурсу «Герой нашего времени» імя М. Лермантава (г. Масква) у намінацыі «Проза» за кнігу «Выбух душы».

Прачула і шчыра Генадзь Барысавіч вёў гаворку пра слова, яго таямнічасць, пра дабрыню і чалавечае прызначэнне. А смачны пачастунак для гарадчан (антонаўкі, прывезеныя з бацькоўскага саду) і, зразумела, аўтографы будуць нагадваць пра душэўную сустрэчу.

**Вольга ІВАНОВА,**
**намеснік дырэктара Гарадоцкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы**

# Спатканне ў «Дружбе»

Па запрашэнні супрацоўнікаў сталічнай публічнай бібліятэкі № 22, што месціцца ў мікрараёне «Дружба», адбылася творчая сустрэча са старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхасём Пазняковым. У ёй узялі ўдзел студэнты, пенсіянеры і работнікі бібліятэк.

У фае кніжніцы была разгорнута выстаўка кніг і публікацый творцы. Аматары прыгожага пісьменства пачулі аповед Міхася Паўлавіча пра развіццё літаратурнага працэсу ў наш час, работу сталічнай пісьменніцкай арганізацыі і ўсяго творчага саюза. Прысутныя ўбачылі два кароткія тэлефільмы пра жыццё і творчасць літаратара. Па яго прапанове было вырашана стварыць пры бібліятэцы літаратурны клуб, які могуць наведаць усе, каго цікавіць высокае мастацкае слова.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# І адзінка папулярнасці?

У Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна адбылася вечарына з нагоды юбілею прафесара, загадчыка кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны, члена-карэспандэнта Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, літаратурнага крытыка і драматурга Івана Штэйнера.

Падчас імпрэзы акцёры Гомельскага абласнога драматычнага тэатра паказалі ўрыўкі са спектакляў «Спакушэнне Францыска Скарыны» і «Кот на лаўрах», пастаўленых паводле п'ес юбіляра. З віншаваннямі выступілі выкладчыкі філалагічнага факультэта А. Мельнікава і Н. Суслава, прадстаўнікі органаў мясцовай улады і адміністрацыі ўніверсітэта, выпускнікі і студэнты. Супрацоўнікі радыё зачыталі жартоўны ліст у Міжнароднае бюро мер і вагаў, у якім прапанавалі ўвесці такую велічыню, як адзінка папулярнасці, якая вымяралася б… у «штэйнерах»! Арганізатары далі трапную назву мерапрыемству — «6:0 на карысць І. Ф. Штэйнера».

**Ганна НОВІК**

# Вялікі чалавек з Малой Багацькаўкі

Супрацоўнікі Горацкай цэнтральнай раённай бібліятэкі здаўна прапагандуюць творчасць пісьменніка, даследчыка літаратуры, крытыка, лексікографа, фалькларыста Максіма Гарэцкага, імя якога было прысвоена кніжніцы 20 гадоў таму. Сёлета тут ладзяцца юбілейныя мерапрыемствы, прысвечаныя 120-годдзю з дня нараджэння выбітнага творцы.




*Дырэктар кніжніцы Наталля Ермалаева і загадчык аддзела інфармацыі Алена Марозава.*

Святкаванне адкрылася выстаўкай-праглядам «Я праўду адкрываю свету», дзе былі прадстаўлены выданні пра жыццё пісьменніка, цікавыя матэрыялы з перыядычнага друку. Дапаўнялі экспазіцыю музычныя інструменты, на якіх умеў іграць пісьменнік, факсімільныя асобнікі газеты «Наша Ніва» за 1912, 1915 і 1920 гады, рэчы таго часу. А 18 лютага, у дзень нараджэння класіка, увазе чытачоў была прадстаўлена электронная выстаўка «З юбілеем, Максім Гарэцкі». Тут можна было пазнаёміцца і з фотаэкспазіцыяй «З сямейнага альбома Гарэцкіх».

Эфектыўнай формай працы сталі выязныя імпрэзы. Бібліятэкары завіталі ў інтэрнат сельскагаспадарчай акадэміі. Студэнты з задавальненнем слухалі ўрыўкі з твораў М. Гарэцкага, а таксама прысвечаныя яму вершы горацкіх паэтаў. Аналагічная сустрэча адбылася ў гарадской сярэдняй школе № 1.

У фае на першым паверсе кніжніцы пасля заканчэння рамонтных работ была створана мінімузейная экспазіцыя, прысвечаная пісьменніку. Там знаходзяцца бюст і партрэт Максіма Іванавіча (скульптар Заір Азгур, мастак В. Шпартаў), летапіс жыцця і творчасці пісьменніка, аўтографы, рукапісы, дакументы.

Супрацоўнікі бібліятэкі збіраюць усе магчымыя матэрыялы, якія маюць дачыненне да імя М. Гарэцкага. У чытальнай зале сфарміраваны фонд з кніг, брашур, перыёдыкі, аўдыё- і відэаматэрыялаў, электронных рэсурсаў. Сёння тут дзясяткі артыкулаў з часопісаў і газет, фотаздымкі пісьменніка, лісты да родных, публікацыі пра яго. Беражліва захоўваецца памятны медаль да 100-годдзя з дня нараджэння і лісты ад дачкі Гарэцкага Галіны Максімаўны, з якой кніжніца вяла перапіску. Зусім нядаўна пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік перадаў бібліятэцы ўспаміны Яўгеніі Лобан, якая вучылася ў 1-м класе Віленскай гімназіі ў Максіма Іванавіча.

Сёлета пачалася праца па стварэнні паўнатэкставай базы дадзеных «Жыццёвы і творчы шлях М. Гарэцкага». Яна ўключае ў сябе біяграфічныя звесткі, алічбаваныя фотаздымкі, бібліяграфію, поўныя тэксты артыкулаў з перыядычных выданняў пра пісьменніка ў электронным фармаце, прысвечаныя яму ўспаміны і вершы.

Дыск «Старонкамі жыцця і творчасці Максіма Гарэцкага» ўключае матэрыялы па папулярызацыі творчасці пісьменніка, змяшчае сцэнарый літаратурна-музычнай кампазіцыі, электронную прэзентацыю, фотаздымкі. Выдадзены буклет «Вялікі чалавек з Малой Багацькаўкі» — міні-летапіс жыцця і творчасці пісьменніка.

**Наталля ЕРМАЛАЕВА,**
**дырэктар Горацкай раённай бібліятэкі імя Максіма Гарэцкага**

Агледзіны

# Аптэка для душы

Хатаўнянская сельская бібліятэка, размешчаная ў мясцовым СДК, стала своеасаблівым цэнтрам культурнага жыцця на вёсцы. Афармлена кніжніца ў нацыянальным стылі. Тут ёсць этнаграфічны куток «Наша спадчына», дзе можна ўбачыць прадметы побыту продкаў. Зацікавяць і кніжныя выстаўкі: «Мая краіна — Беларусь», «Літаратурная Рагачоўшчына», «Наш зямляк Васіль Ткачоў», «Класікі — дзецям» і іншыя.

— Кніжны фонд налічвае больш як 12 тысяч экземпляраў кніг, брашур, часопісаў, газет, — расказвае загадчыца бібліятэкі Таццяна Лізунова. — Каб чытачы маглі хутка арыентавацца, створаны каталогі: алфавітны, сістэматычны, дзіцячы сістэматычны, краязнаўчая картатэка. У кніжніцу рэгулярна паступаюць новыя выданні. Гэта літаратура духоўна-маральнай тэматыкі, гістарычная, мастацкая, школьная. І кожны карыстальнік бібліятэкі можа знайсці кнігу на свой густ. Я ўжо жартую: наша кніжніца — сапраўдная аптэка для душы, асабліва для пенсіянераў, адзінокіх людзей. Паслугамі бібліятэкі карыстаюцца больш як 500 вяскоўцаў.

Пры кніжніцы створаны клуб па інтарэсах «Спадчына». Яго галоўная мэта — прывіць любоў да роднай зямлі, да культурнай спадчыны беларускага народа, мовы і літаратуры. Члены клуба разам з бібліятэкарам ладзяць самыя розныя мерапрыемствы ў кніжніцы, вандруюць па вёсках, сустракаюцца з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны і працы, са старажыламі, даглядаюць магілы загінуўшых воінаў і землякоў.

Бібліятэка збірае і захоўвае звесткі па гісторыі вёскі, пра яе славутых землякоў. На аснове гэтых матэрыялаў створаны летапіс Хатоўні, альбомы «Гадоў мінулых святая памяць» (пра ўдзел землякоў у Вялікай Айчыннай вайне), «Чалавек працай слаўны» (пра перадавікоў вёскі), «Знакамітыя землякі», «Пісьменнікі-землякі» і іншыя.

У індывідуальнай працы з чытачамі асаблівая ўвага надаецца інвалідам, састарэлым людзям, прапагандзе сацыяльна значнай літаратуры. Шмат сіл і часу Таццяна Лізунова ахвярue арганізацыі масавых мерапрыемстваў. Цікавымі атрымаліся імпрэзы, праведзеныя сёлета сумесна з сельскім Домам культуры і мясцовай сярэдняй школай: свята, прысвечанае 65-годдзю з дня нараджэння пісьменніка-земляка Васіля Ткачова, «Мой рай зямны», вандроўка да крыніцы ў вёсцы Гута «Жывая вада крыніц», свята дзіцячай і юнацкай кнігі.

**Міхась КАВАЛЁЎ**

# Кніжніцы краіны: факты, якіх вы не ведалі

Прапануем вашай увазе найцікавейшыя і найноўшыя звесткі з бібліятэчнага свету.

### ПРА ШТО ДБАЕ МІНІСТЭРСТВА?

Паводле звестак намесніка Міністра культуры Рэспублікі Беларусь Васіля Чэрніка, сёння ў краіне працуе каля 9200 бібліятэк, як публічных, так і спецыяльных. Агульны аб'ём фондаў — звыш 200 мільёнаў экзэмпляраў кніг. Гэта значыць, што на кожнага чалавека прыходзіцца прыкладна 22 кнігі.

Самай вялікай з'яўляецца сетка бібліятэк Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. У яе ўваходзіць 3571 кніжніца, у тым ліку Нацыянальная бібліятэка Беларусі.

Паслугамі бібліятэк краіны карыстаюцца больш як 3 мільёны чалавек, то бок трэцяя частка нашага насельніцтва.

Пакуль камп'ютарызаванымі з'яўляюцца 58 % бібліятэк, а доступ да інтэрнэту маецца ў 45 %.

У выніку выканання пастаўленага Міністэрствам культуры плана да 2015 года чакаецца:

- абнаўленне фондаў бібліятэк на 5 % штогод;
- павелічэнне колькасці карыстальнікаў на 5 %;
- завяршэнне працэсу камп'ютарызацыі бібліятэк і падключэння іх да інтэрнэту.

### ПЕРШАЙ СПРАВАЙ — КНІГІ, А СЯБРЫ — ПАСЛЯ

Супрацоўнікі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі правялі даследаванне «Роля кнігі і чытання ў жыцці навучэнцаў і моладзі». Паводле іх звестак:

- 94,8 % рэспандэнтаў адзначылі, што актыўна карыстаюцца інтэрнэтам, прычым больш як палова — штодзённа. 78,3 % звяртаюцца па інфармацыю ў бібліятэкі;
- больш як 40 % апытаных лічаць, што бібліятэкі і віртуальныя інфармацыйныя рэсурсы мусяць існаваць паралельна. Некаторыя нават упэўнены, што інтэрнэт не здолее замяніць бібліятэкі;
- больш як 80 % навучэнцаў наведваюць кнігарні. 40 % набываюць кнігі рэгулярна;
- 76,4 % цікавяцца новымі выданнямі. Больш як 60 % апытаных маюць уласныя бібліятэкі.

Але што самае цікавае, дык гэта прыярытэты моладзі. Паводле даследавання, у асяроддзі магістрантаў і аспірантаў чытанне літаратуры ў вольны час займае першае месца, а камп'ютар і зносіны з сябрамі — другое і трэцяе.

### ВАКАЦЫІ? У БІБЛІЯТЭКУ!

У Мінску працуе 18 дзіцячых бібліятэк. Штогод іх наведваюць каля 125 тысяч чытачоў.

Як ні дзіўна, пік наведванняў прыходзіцца на час школьных вакацый. А на выхадных усё часцей у бібліятэкі разам з дзецьмі сталі наведвацца бацькі, пераважна — таты.

Дзіцячыя бібліятэкі распрацоўваюць дадатковыя праграмы, вядуць краязнаўчую працу. Па адрасе Русіянава, 48 працуе Цэнтр японскай культуры. Ён разлічаны не толькі на школьнікаў.

### БЯСПЛАТНЫ СЫР — НЕ ТОЛЬКІ Ў ПАСТЦЫ

Сваё даследаванне правяла і Нацыянальная бібліятэка. Тут цягам двух гадоў вывучалі чытацкую аўдыторыю. Было апытана 2500 чалавек з розных рэгіёнаў.

90 % упэўнены, што дасягнуць жыццёвага поспеху, не працуючы з інфармацыяй, немагчыма. Столькі ж апытаных лічаць, што трэба карыстацца рознымі інфармацыйнымі крыніцамі.

Калі запыталіся, што з'яўляецца галоўным падчас выбару той ці іншай крыніцы інфармацыі, 70 % адказалі: магчымасць атрымаць звесткі на ўласны камп'ютар, не выходзячы з офіса/дома, да таго ж — бясплатна.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# «Беларусь» на Уздзеншчыне

«Беларускую кнігу — у раёны»: так называецца рэспубліканская акцыя, якую ўжо не першы год ладзіць выдавецтва «Беларусь». Супрацоўнікі аддзела маркетынгу выязджаюць у рэгіёны, дзе сустракаюцца з супрацоўнікамі і чытачамі гарадскіх і сельскіх бібліятэк, прэзентуюць кніжныя навінкі.




*Удзельніца сустрэчы дэманструе кніжныя навінкі.*

Адна з такіх сустрэч адбылася ў чытальнай зале Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя П. Труса. Увазе прысутных была прапанавана літаратура універсальнай тэматыкі: кнігі па сусветнай гісторыі і гісторыі Беларусі, даведнікі па медыцыне, дамаводстве, кулінарыі і рукадзеллі, літаратурна-мастацкія выданні для дзяцей і дарослых, альбомная прадукцыя і г. д.

— Выдавецтва «Беларусь» — старэйшае ў краіне, свой адлік вядзе з 1921 года, — расказвае загадчык аддзела маркетынгу Марына Ланцэтава. — І заўсёды яго адметнасцю была шматпрофільнасць тэматыкі. Паколькі гэта дзяржаўная структура, тут выпускаецца вялікая колькасць сацыяльна значнай літаратуры, якая фінансуецца дзяржавай — выданні павінны быць даступнымі для шырокага кола насельніцтва!

Асаблівую каштоўнасць маюць сувенірныя і падарункавыя выданні, прымеркаваныя да юбілейных і памятных дат. Як заўважыла М. Ланцэтава, нягледзячы на тое, што сёння вялікай папулярнасцю, асабліва сярод моладзі, карыстаюцца электронныя кнігі, нішто і ніколі не зможа замяніць кнігу папяровую.

**Вера ЛУКАШЭВІЧ,**
**фота аўтара**

# Віталь СТАХІЕВІЧ: «У Беларусі ёсць сапраўды прафесійная музычная адукацыя»

Ён беларус, які жыве за мяжой. Ён размаўляе моваю, зразумелай ва ўсіх краінах свету, — моваю музыкі. Яму падабаецца насычанае культурнае жыццё, архітэктура і разняволенасць Амстэрдама, але ў той жа час душою ён заўсёды з Беларуссю. Піша вершы на роднай мове і марыць хутчэй вярнуцца на Радзіму.


Фота Ядвігі Адамчык

Віталь Стахіевіч — майстар ігры на фартэпіяна. Лаўрэат шматлікіх міжнародных конкурсаў. Выпускнік Рэспубліканскага музычнага каледжа і Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Скончыў дзве магістратуры — Амстэрдамскай кансерваторыі і Амстэрдамскага ўніверсітэта. Яго рэпертуар складаюць творы розных стыляў і жанраў, ад старадаўняй музыкі да п'ес сучасных аўтараў. Сёння геаграфія выступленняў нашага знакамітага земляка ўключае ў сябе краіны Еўропы, ЗША, Мексіку.

**— Віталь, як узнікла прага да музыкі?**

— Відаць, ад самага дзяцінства. Гэта неад'емная частка жыцця. Аднойчы давялося праходзіць камп'ютарны тэст на тэму, якая прафесія больш пасуе, дык у мяне паўсюль быў устойлівы мінус, акрамя адной пазіцыі — творчасць, артыстызм…

**— Калі вы зразумелі, што па-сапраўднаму пачалі з музыкай сябраваць?**

— Мабыць, ад часу навучання ў музычным каледжы. Гэта цёплы дом, у якім існуе сапраўды творчая, цікавая, канкурэнтная атмасфера, дзе музыка — і захапленне, і прафесія.

**— Чаму менавіта фартэпіяна, а не скрыпка ці акардэон?**

— Не ведаю, адчуў нейкі штуршок у сэрцы. Хаця выбар, вядома, не вельмі арыгінальны.

**— Ужо шмат гадоў вы жывяце і працуеце за мяжой, у Амстэрдаме. Калі і як з'явілася магчымасць з'ехаць? Ці лёгка было прыняць рашэнне?**

— Паехаў, каб працягнуць адукацыю ў магістратуры, адчуць нейкі новы ўплыў, стаць больш самастойным. У эмацыянальным плане, безумоўна, няпроста было адарвацца ад роднай зямлі, як таму Антэю, але ў творчым — вабілі новыя гарызонты, творчыя выклікі.

**— У Еўропе зусім іншыя культуры, мовы, традыцыі, людзі... Пры гэтым вядома пра ваша выдатнае валоданне беларускай літаратурнай мовай. Як атрымліваецца ў чужым моўным асяродку захаваць сваё, роднае?**

— Падобна да таго, што я — выключэнне з нормы. Дзіўна, бо, па маіх назіраннях, беларусы, якія выязджаюць у іншыя краіны, лёгка засвойваюць новыя мовы, нават такія «немілагучныя», як, напрыклад, нідэрландская. А вось крыху падвучыць сваю, родную, — жадання не хапае. Я асабіста маю ў свядомасці моцную моўную падпітку з дзяцінства — чыстую крынічную беларушчыну ад маіх палескіх дзядуль і бабуль.

**— Ці заўважаеце на канцэртах адрозненне нашай беларускай публікі ад еўрапейскай?**

— Шчыра кажучы, не надта. Адзінае — у нас сярод публікі часцей убачыш моладзь, на Захадзе ж пераважна людзі сталага ўзросту.

**— Якія творы больш за ўсё падабаецца іграць?**

— Найчасцей звяртаюся да твораў рамантычнага перыяду — Шуберт, Шуман, Шапэн, Рахманінаў, хаця вабіць і сучасная, і больш старадаўняя музыка.

**— Усприманне адных і тых жа твораў мяняецца з гадамі?**

— Вядома. Гэта як перачытванне любімых кніг — з часам, з новым досведам звяртаеш увагу на новыя сэнсы, схаваныя там для цябе раней. Так і ў музыцы: адкрываеш старыя ноты і бачыш нешта свежае.

**— Як вы ставіцеся да сучаснай папулярнай музыкі?**

— Абыякава.

**— Хто з вялікіх піяністаў мінулага аказаў на вас найбольшы ўплыў?**

— Іх вельмі многа. Але найперш згадаў бы імёны Святаслава Рыхтэра, Артура Рубінштэйна і Уладзіміра Горавіца.

**— У сёняшнім фартэпіянным мастацтве ёсць хто-небудзь, вам цікавы?**

— Зноў жа безліч імёнаў. На вяршыні Алімпа — Міхаіл Плятнёў, Рыгор Сакалоў, Аркадзь Валадось. З вялікі прыхільнік таленту Мікалая Луганскага, чый сольны канцэрт, ведаю, адбыўся ў Мінску зусім нядаўна.

**— Ці могуць сёння беларускія музыканты скласці канкурэнцыю еўрапейскім?**

— У Беларусі магутная школа, ёсць сапраўды прафесійная музычная адукацыя ад самага дзяцінства, якой у многіх іншых еўрапейскіх краінах нават не існуе. Вельмі важна, каб гэта не загінула.

**— У вас, напэўна, вельмі шчыльны графік працы. Як пры гэтым застаецца час на асабістае жыццё?**

— Так, вельмі шчыльны. Даводзіцца ўважліва і дакладна планаваць свой час.

**— Віталь, ці ёсць у вас хобі?**

— Вядома. Гэта вельмі папулярнае сярод музыкантаў захапленне — спорт. Любімы футбольны клуб — «Дынама» Кіеў, які, на жаль, страціў цяпер сваю былую веліч.

**— Што б вы жадалі зрабіць, але ўсё не хапае часу? І што пакідаеце без увагі?**

— Вельмі люблю падарожнічаць, таму хацеў бы зведаць мноства новых мясцін. На гэта часу заўсёды не хапае. А вось што мяне зусім не цікавіць, дык гэта камп'ютарныя гульні.

**— Як выглядае звычайны дзень піяніста?**

— У ідэале 5 — 6 гадзін заняткаў на інструменце, або нейкая рэпетыцыя, або ўрокі. Акрамя гэтага, дамашнія клопаты, сямейныя стасункі, ліставанне. Чытанне, прагляд фільмаў. Штосьці такое…

**— І ўвогуле, хто такі піяніст? Тэхнічны пасрэднік паміж музыкай і людзьмі ці нешта больш значнае?**

— Фармальна піяніст — выканаўца, гэта значыць выканаўца волі кампазітара, ці нават публікі. Але выканаўчае мастацтва трэба ўспрымаць як самастойную велічыню, бо кожная інтэрпрэтацыя, кожны канцэрт — гэта самастойная адзінка, паўнавартасны творчы акт.

*У межах «Беларускай музычнай восені» 3 лістапада ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі Віталь Стахіевіч прадставіць канцэрт фартэпіяннай музыкі на творы Ф. Гайдна, Ф. Шуберта, Л. Абеліёвіча, Ф. Шапэна.*

**Таццяна ШЫМУК**

# Прывітанне, Каліфорнія!



Гарадская мастацкая галерэя Л. Шчамялёва ў сваёй рубрыцы «СтАрт» прадставіла фотавыстаўку «Выпадкова з мэтай». Наведвальнікі могуць пабачыць фотаздымкі далёкай Каліфорніі, зробленыя непрафесійным фатографам.

На першы погляд здаецца, што перад намі выпадковыя фатаграфічныя нататкі вандроўніка. А потым пачынаеш разумець: мастак (ён пажадаў застацца інкогніта) здолеў улавіць пачуцці самой прыроды. Яго сціплыя, але вельмі кранальныя фотаздымкі напоўнены вобразамі, якія ўздзейнічаюць на цябе, — і з'яўляецца мэта!

Афармленне выставачнай прасторы дапамагае данесці ідэю. Фотаздымкі размешчаны па коле, яны не маюць назваў (гэта не галоўнае!), ёсць толькі маленькія філасофскія подпісы, што вядуць наведвальнікаў да спасціжэння ісціны. А побач – серыя ўпрыгожванняў, прыродныя матывы якіх ствараюць добры фон для ўсёй экспазіцыі.

Варвара Шчука, аўтар ідэі і куратар праекта, падзялілася сваімі разважаннямі: «Выпадкова з мэтай» — гэта спроба паказаць жыхару Беларусі іншую, нязвыклую для яго мясцовасць, вачыма свайго суайчынніка. Звычайна Каліфорнія асацыіруецца з пальмамі, Галівудам, Голдэн Гейтам... Але ж ці гэта адзіны твар «залатога» амерыканскага штата? Тое, як мы ўспрымаем пэўныя фотаздымкі, залежыць ад нас: ад сваёй ментальнасці немагчыма адцурацца — гэта вельмі важнае адкрыццё для мяне. Гэтую ідэю мне хацелася адлюстраваць у праекце». Дызайнер фотавыстаўкі Яўген Мітрафанаў дадаў: «Праект філасафічны. Ён вымушае да роздуму: наша асяроддзе гарманічнае, але яно працягвае развівацца. Усё, што вакол нас, мае сваю прычыну, якая з'яўляецца часткай і сродкам свету і жыве, здавалася б, недзе паралельна і незаўважна. І ўсё ж — тут, побач».

Галерэя дала магчымасць выказацца маладым творчым сілам. Крысціна Ляцкая, старшы навуковы супрацоўнік галерэі Шчамялёва, адзначыла: «Наша рубрыка «СтАрт» існуе даўно. Яна дапамагае маладым рабіць свае першыя крокі. Энергія, талент, ініцыятыўнасць, пэўная адвага — і як вынік мы маем выдатны куратарскі старт».

**Паліна ПЛАТАВА**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2599.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 31.10.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4724.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686